



Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 2 (4751) 10 студзеня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў праваслаўных хрысціян краіны з Раством Хрыстовым. «Раство Хрыстова ўсяляе ў сэрцы надзею і ўсёабдымную любоў, напаўняе жыццё шчырай радасцю і добрымі спадзяваннямі. Недарма калядныя дні — гэта час здзяйснення жаданняў, дабрачыннасці і міласэрнасці, асаблівай увагі да ўсіх, хто мае патрэбу ў нашай спагадзе, клопаце і дапамозе», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Аляксандра Савіцкага з 90-годдзем. Як адзначыў Прэзідэнт, жыццё пісьменніка з'яўляецца яскравым прыкладам самаадданага служэння Радзіме. «Сёння Вас добра ведаюць і шануюць як выдатнага празаіка і публіцыста, кнігі якога перакладзены на розныя мовы свету. Вялікай павагі заслугоўвае Ваша актыўная грамадская работа па духоўным і патрыятычным выхаванні моладзі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Гравюру Напалеона Орды з выявамі Навагрудка будуць выкарыстоўваць для афармлення спектакля «Пан Тадэвуш», прэм'ера якога пройдзе ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы 15 — 17 студзеня. Паэму Адама Міцкевіча ўвасобіць на сцэне рэжысёр Мікалай Пінігін. Разам з ім над пастаноўкай працуюць мастак-пастаноўшчык Зіновій Марголін, мастак па касцюмах Алена Ігруша і кампазітар Андрэй Зубрыч. Пераклад паэмы з польскай на беларускую — Іосіфа Семяжона, інсцэніроўка — Сяргея Кавалёва. Ролі выконваюць народны артыст СССР і Беларусі Генадзь Аўсяннікаў, народныя артысты Беларусі Сяргей Журавель, Мікалай Кірычэнка, Арнольд Памазан і інш.

✔ Сёння адбудзецца фінал адборачнага тура міжнароднага песеннага конкурсу «Еўрабачанне-2014». Напярэдадні ў Белтэлерадыёкампаніі прайшла жараб'ёўка. Выканаўцы выйдуць на сцэну ў наступным парадку: Наталля Тамела, *Nuteki*, Арцём Міхаленка, Матвей Купер і гурт *DUX*, Тэо, Дарыя, Алена Сіняўская, Аліна Мошчанка, Жанет, Анастасія Малашкевіч, *Switter Boys feat. Kate&Volga Karol, Napoli*, Макс Лорэнс & ДзіДзюЛя, *Tasha Odi*.

✔ Урачыстая цырымонія адкрыцця конкурсу прафесійнага майстэрства «Сталічны настаўнік — сталічнай адукацыі» адбылася ўчора ў Мінскім гарадскім інстытуце развіцця адукацыі. У трох фінальных турах конкурсу возьмуць удзел 68 лепшых педагогаў сталіцы — пераможцы раённых этапаў. Першы тур прадоўжыцца па 12 лютага 2014 года. Удзельнікі прадэманструюць уласную педагагічную дзейнасць і правядуць адкрыты ўрок у незнаёмым класе. У другім туры (з 13 лютага па 10 сакавіка) трэба будзе правесці занятку «Рэклама метадычнага прыёму». А ў фінале (28 сакавіка) адбудзецца майстар-клас, дзе настаўнікі прадставяць «Творчую візітку». Заснавальнік конкурсу — Камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама пры падтрымцы Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі і Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі.

Падрыхтавала
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**


Масты ва Украіну 8


Ці лёгка паліглоту? 9


«Кветка» непаўторная 10


Шматтомныя традыцыі 12

*Фота Кастуся Дробава*



*Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Аляксандр Радзькоў (справа) віншуе з юбілеем пісьменніка-франтавіка Алеся Савіцкага і ўручае юбіляру кветкі ад Кіраўніка дзяржавы.*

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Чаго чакаюць ад творцаў?

8 студзеня ў сталічным Доме літаратара адбыўся чарговы Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі. Галоўным пунктам сустрэчы стала віншаванне з 90-годдзем лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, пісьменніка Алеся Савіцкага.

Свае шчырыя словы і цёплыя пажаданні выказалі не толькі калегі-творцы — ад імя Кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі віншаванне юбіляру перадаў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Аляксандр Радзькоў, які таксама акрэсліў найважнейшыя задачы творчага саюза: дапамагчы сваім чытачам вызначыцца і ўсвядоміць, што мы — краіна, цікавая ўсім і на захадзе, і на ўсходзе, і на поўначы, і на поўдні. Аляксандр Міхайлавіч прызнаў, што пісьменнікам сёння няпроста: «Вы — у вялікай ступені эмацыянальныя аналітыкі. І менавіта ад вас чакаем мы ёмкіх эсэ, глыбокіх расповедаў, абмеркаванняў…»

Са свайго боку, юбіляр звярнуўся і да тых, каго няма з намі, — пісьменнікаў-франтавікоў: «Мы не маем права схлусіць перад тварамі тых, хто сёння пазірае на нас з фотаздымкаў у гэтай мемарыяльнай зале. Мы, франтавое пакаленне, будавалі сваё жыццё як помнік героям. Нездарма неба падарыла шанц Навуменку, Шамякіну, Быкаву, каб яны распавялі пра Мужнасць нашага народа!»

Працяг чытайце на стар. 2 ▶

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Чаго чакаюць ад творцаў?

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Менавіта памяць пра кошт сённяшняга мірнага жыцця робіць сучасны саюз творцаў надзвычай моцным сплавам, упэўнены яго кіраўнік Мікалай Чаргінец. Канечне, ёсць і пэўныя праблемы, якія нельга замоўчваць: тое, што некаторыя пісьменнікі не «выходзяць у народ», не расказваюць пра сябе і свае творы, нізкі ўзровень цікавасці да сучасных аўтараў з боку прафесійных крытыкаў і інш. Аднак, нягледзячы ні на што, колькасць тых, хто імкнецца стаць членам творчай суполкі, не змяншаецца. Падчас Прэзідыума былі прынятыя ў шэрагі СПБ Алена Дзебіш, Дзмітрый Саўчык, Алена Баяровіч, Уладзімір Крайнеў, Іван Ярашэвіч, Уладзімір Цанунін, Юрый Сохар. Даваялося і выправіць ранейшую памылку: з саюза аднагалосным рашэннем членаў Прэзідыума быў выключаны кіраўнік партала «ЛітКрытыка» Аляксандр Новікаў.

У цэлым, як зазначыў Мікалай Чаргінец, 2013 год стаў для творцаў даволі плённым: было выдадзена больш як 170 кніг, праведзена каля 15 тысяч выступленняў, у тым ліку і ў выглядзе пісьменніцкіх вандровак у самыя аддаленыя куткі нашай краіны.

У найбліжэйшых планах — Пленум, прысвечаны вынікам працы СПБ у 2013 годзе і пастаноўцы задач на 2014-ы, а таксама падрыхтоўка да святкавання 80-годдзя Саюза пісьменнікаў Беларусі.



Фота Кастуся Дробава

Члены Прэзідыума СПБ Ліліяна Анцух, Алесь Савіцкі і Уладзімір Карызна.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

# Віншуем!

Сакратарыят СПБ пры ўдзеле галоўных рэдактараў выданняў, секцыі крытыкі і літаратуразнаўства прыняў рашэнне аднавіць штогадовыя прэміі часопісаў і газеты «ЛіМ» за лепшыя публікацыі ў галінах «Проза», «Паэзія», «Публіцыстыка, крытыка і літаратуразнаўства».

**За 2013 год адзначаны прэміямі наступныя пісьменнікі:**

**У галіне «Проза»:**

часопіс «Полымя» — Ніна Рыбік;
часопіс «Нёман» — Алена Папова;
часопіс «Маладосць» — Вікторыя Фраловіч;
часопіс «Вожык» — Павел Саковіч.

**У галіне «Паэзія»:**

часопіс «Полымя» — Казімір Камейша;
часопіс «Нёман» — Юрый Сапажкоў;
часопіс «Маладосць» — Маргарыта Латышкевіч.

**У галіне «Публіцыстыка, крытыка і літаратуразнаўства»:**

Часопіс «Полымя» — Алесь Марціновіч;
Часопіс «Нёман» — Таццяна Шамякіна;
Газета «ЛіМ» — Іван Саверчанка.

**Сакратарыят СПБ**

# Падтрымалі літаратараў



Першыя лаўрэаты літаратурнай прэміі імя Кірылы Тураўскага.

Напярэдадні Новага года ў Гомелі ў Белай гасцінай Палаца Румянцавых і Паскевічаў адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння прэміі аблвыканкама — Літаратурнай прэміі імя Кірылы Тураўскага.

Літаратурны конкурс імя філосафа, асветніка праводзіцца абласным аддзяленнем грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі" з 2007 года. За гэты час у ім узялі ўдзел 612 чалавек, 36 з іх сталі лаўрэатамі і дыпламантамі, многія ўступілі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Аднак у 2013 годзе конкурс упершыню атрымаў такі высокі статус і матэрыяльную падтрымку.

Звяртаючыся да прысутных на цырымоніі, начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама Ірына Даўгала адзначыла: «Нягледзячы на тое, што ў рэгіёна шмат пытанняў, якія патрабуецца вырашаць неадкладна, ёсць каштоўнасці вечныя. Таму і вышуканы сродкі для таго, каб была заснавана такая прэмія». Пад апладысменты прысутных яна ўручыла дыпломы і грашовыя прэміі ў памеры 30 базавых велічынь кожнаму пераможцу конкурсу ў намінацыях: «Проза» — Уладзіміру Гаўрыловічу за аповесці «Анёлак, мой анёлак» і «Пах чаромхі», «Адкрыццё года» — загадчыку Гарочыцкага СДК Калінкавіцкага раёна Віталю Куліку за раман «Ведьма полесская», «Дзіцячая літаратура» — Яўгену Калашнікаву за падборку твораў «Имя из мультика», «Паэзія» — Іне Спасібінай за падборку твораў «Солнцеворот», «Драматургія» — Васілю Ткачову за п'есу «Апошні».

Старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч, выступаючы ад імя лаўрэатаў конкурсу, падкрэсліў: дзякуючы беспрэцэдэнтнай падтрымцы аблвыканкама сёлетні конкурс набыў дзяржаўнае гучанне!

Ёсць упэўненасць, што літаратурная прэмія аблвыканкама будзе і надалей стымуляваць літаратараў Гомельшчыны да стварэння высокамастацкіх твораў, выяўляць знакавыя імёны, павышаць статус пісьменніка ў беларускім грамадстве.

Віноўнікам урачыстасці былі адрасаваны музычныя падарункі ад творчай моладзі каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага. І яшчэ: да ўрачыстай цырымоніі ўжо былі выдадзены асобнымі кнігамі творы-пераможцы, іх можна было пагартаць на кніжнай выстаўцы, арганізаванай абласной універсальнай бібліятэкай.

Як вядома, адна з шасці намінацый літаратурнага конкурсу — «Адкрыццё года» — прызначана для творцаў, якія не з'яўляюцца членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі. І сапраўдным адкрыццём 2013 года стаў рускамоўны раман работніка культуры Віталя Куліка «Ведьма полесская», які пасля цырымоніі зазначыў: «Мне падабаюцца містычныя гісторыі, але на ўзроўні рэальнасці. Я напісаў тое, што сам хацеў пачытаць».

**Тамара КРУЧЭНКА**

# За класіку — аднагалосна

На чарговым пленуме праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў абмяркоўвалася праца трох яго рэгіянальных суполак. Удзельнікі гэтага прадстаўнічага сходу атрымалі магчымасць не толькі абмяняцца з калегамі багатай інфармацыяй пра зробленае, пагаварыць пра творчыя, сацыяльныя, фінансава-арганізацыйныя клопаты, але і акрэсліць кола праблем, актуальных для ўсёй нашай культуры.

Выступілі старшыні Мінскага гарадскога і Мінскага абласнога аддзяленняў БСМД Віктар Войцік і Рыгор Сарока. Са зместам даклада старшыні Гомельскага абласнога аддзялення Галіны Паўлянок, якая не змагла прыехаць на пленум, азнаёміла прысутных яе намеснік Людміла Фёдарава. Выкладчык Гомельскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага Аляксандр Маляроў распавёў пра дзейнасць рэгіянальнага аддзялення Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў БСМД, якое ён узначальвае. Да размовы далучыліся таксама Ліліяна Анцух, Міхась Дрынеўскі, Валерый Уколаў, Міхась Казінец, Наталля Вітчанка. Ад вырашэння праблем, на якія звярнулі ўвагу вядомыя і паважаныя ў краіне асобы, залежыць паўнавартаснасць айчыннага прафесійнага мастацтва, эфектыўнасць эстэтычнага выхавання, узровень музычнай прапаганды, агульная культура нашага грамадства, што ўрэшце ўплывае і на міжнародны прэстыж.

Музыканты падтрымалі трывогу В. Войціка за лёс творчых калектываў Белтэлерадыё: «Якія могуць быць апраўданні сітуацыі, калі на хвалі ўпарадкавання адміністрацыйна-кіруючага складу робіцца скарачэнні на 25 працэнтаў штату артыстаў сімфанічнага аркестра, хору! Як растлумачыць чалавеку, некампетэнтнаму ў мастацтве, што скараціць на 25 працэнтаў, напрыклад, квартэт — немагчыма, бо калі застанецца трыа, гэта ўжо будзе прынцыпова іншы ансамбль?» Паводле слоў В. Войціка, у адказ на зварот кампазітараў у Міністэрства культуры там прынята рашэнне ў новым годзе выправіць становішча. А вось на думку Р. Сарокі, праблема і ў тым, што класічных калектываў Белтэлерадыё мы практычна не бачым на экране, амаль не чуем у эфіры: «Хіба яны існуюць толькі дзеля таго, каб зрабіць запіс і папоўніць фанатэку? Чаму ім нельга паказаць сябе ў сваёй жа медыйнай прасторы? Можа, і для сур'ёзных выканаўцаў урэшце знойдзецца месца на экране сярод бяздумных забаўляльных перадач?»

Наогул, праблема прапаганды розных відаў класічнага мастацтва, нацыянальнай літаратуры на фоне пацяшальных безгустоўных тэлеперадач з гадамі толькі абвастраецца. Таму пленум прыняў рашэнне звярнуцца ў Беларускую канфедэрацыю творчых саюзаў, каб аб'яднаць добрую волю ўсіх неабыякавых дзеячаў айчыннай культуры і выступіць у друку з адкрытым лістом пра набалелую праблему, небяспечную для духоўнага здароўя нацыі.

Варта падумаць і пра сістэму заахвочвання майстроў мастацтва. Паколькі Нацыянальная музычная прэмія арыентуецца на папулярныя жанры, члены праўлення БСМД падзялілі меркаванне В. Уколава і выказаліся за мэтазгоднасць заснавання ў Беларусі асобнай музычнай прэміі «Класіка» — аналагічнае размежаванне ёсць, як вядома, і на міжнародным тэлевізійным конкурсе «Еўрабачанне», дзе пачалі ўдзельнічаць (і паспяхова) нашы маладыя музыканты з акадэмічнай адукацыяй. Існаванне прэміі «Класіка» неабходна і дзеля таго, каб у масавай свядомасці не фарміравалася аднабокае ўяўленне пра дасягненні сучаснай беларускай музыкі.

Мала хто ведае пра галоўную праблему гамяльчан — артыстаў абласной філармоніі, калектываў каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага, ДМШ імя П. Чайкоўскага. Яны шмат робяць для развіцця нацыянальнай культуры, удзельнічаюць у канцэртна-асветніцкай дзейнасці, ладзяць значныя творчыя праекты, у тым ліку па ініцыятыве і з удзелам зоркі акадэмічнага вакальнага мастацтва Г. Паўлянок, але... Гомельская абласная філармонія, якой неўзабаве споўніцца 50 гадоў, дагэтуль не займела сваёй канцэртнай залы!

Саюз музычных дзеячаў — сузор'е адметных людзей. Практычна ў кожнага ёсць рознага кшталту публікацыі, выданні, музычныя запісы, хатнія архівы, якія адлюстроўваюць пэўныя пласты беларускай культуры і могуць зацікавіць калег, а з часам — новыя пакаленні даследчыкаў і аматараў музыкі. Ухваліўшы прапанову Р. Сарокі, яго сябры па суполцы палічылі карысным справай абсталяваць у невялічкай «штаб-кватэры» БСМД бібліятэчны куток для такіх дакументальных набыткаў. Тым больш традыцыя прыносіць сюды кнігі з дарчымі надпісамі ўжо існуе.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

# Гуканне зімы

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа правёў 3 студзеня паэтычны «Зімовы вечар». Імпрэза была прасякнута, як заўсёды, цеплынёй, але і лёгкім сумам — сапраўдная зіма, з маразамі і снегам, відаць, заблукала па дарозе ў нашу краіну. Падчас лірычных чытанняў прагучалі вершы маладых і сталых паэтаў, сярод якіх — Святлана Яўсеева, Таццяна Лейка, Ала Левіна, Міхаіл Пегасін, Мікола Шабовіч, Міхась Башлакоў, Таццяна Шпартава.

З іх вуснаў «зляталі» словы, прысвечаныя не толькі «халоднай гаспадыні», але і ўвогуле чалавечаму жыццю — сумным ці вясёлым успамінам, імгненнаму ці вечнаму каханню, Радзіме, прыгажосці, надзеям і адзіноце. Цікава, што выканаўцы, вельмі розныя, як па ўзросце, так і па стылі твораў, паядналіся, нібы добрыя сябры, каб шчыра падзяліцца думкамі, пачуццямі, творчымі дасягненнямі.

Надзвычай гарманічна ўплялася ў канву вечарыны класічная жывая музыка. Фартэпіянныя пералівы нагадвалі зменлівы нораў прыроды — сцюдзёныя завеі, а праз хвіліну — мяккі аксамітны снегапад.

Лейтматывам сустрэчы сталі радкі беларускага класіка: «Надышлі марозы, рэчкі закавалі, белы бярозы шэранем убралі…» Можа, гэтыя словы ўрэшце здзейсняцца?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Бывай і... добры дзень

Напярэдадні Новага Года і Каляд людзі традыцыйна падводзяць пэўныя вынікі. У многіх краінах прынята абавязкова выкідваць старыя рэчы і пакідаць толькі самае патрэбнае, што даказала сваю каштоўнасць. Гэта жэст канкрэтны, утылітарны (нехта выкідвае старую канапу, нехта чысціць фрэнд-стужку ў Фэйсбуку...) і адначасова сімвалічны. Праект «Добры дзень і бывай», які праходзіць у Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва, — такі ж сімвалічны жэст, «апрануты» ў фармат аўтарскага праекта.

Творцы Ганна Балаш і Аляксей Андрэеў даследавалі «сухі астатак» свайго прыкладна паўвекавога жыцця. Іх жаданне пазбавіцца лішняга, непатрэбнага, зжытага стала сапраўдным, настойлівым, што і аб'яднала аўтараў. Вынік арт-даследавання: ёсць рэчы, якія не выкідваюць — успаміны, дзяцінства, першае каханне, хвіліны захаплення ці моцнага страху, сувязі паміж людзьмі і іх разрывы...

Сэнсавая архітэктура экспазіцыйнай прасторы ў праекце «Добры дзень і бывай» — адзінства. Асобныя фатаграфіі, прадметы, надпісы і гукі — гэта асобная цэгла: разглядаць і ўспрымаць узведзены архітэктарамі будынак трэба цалкам. Для звычайнага гледача — зусім не проста!

Трэба пэўным чынам сфакусіравацца і паспрабаваць разгледзець нешта кшталту нябачных лазерных промняў сігналізацыі, якія злучаюць персанажы і іх малюнкі, інтэрвалы і пераходы, літары і ноты... Трэба добраахвотна зваліцца ў нябачнае павуціние сілавых нітак. Гэта не «фотавыстаўка» — «фотаінсталяцыя»: фармат апошняй робіць актыўнай саму прастору.




Назва «Добры дзень і бывай», гэтак жа як і ўвесь праект, — з нябачнымі падтэкстамі. У трактоўцы аўтараў «бывай» — гэта «прабач». Менавіта так трэба развітвацца з чым бы ні было, — адкрываюць нам аўтары вынікі свайго даследавання. І тады раны зажывуць, разрывы зрастуцца, расстаннеператворыцца ў сустрэчу, а «бывай» — у «добры дзень».

**Таццяна ШЫМУК**

# Каляды: клубны фармат

**Адмысловы канцэрт «Каляды ў вялікім горадзе» прайшоў у сталічным клубе Re:Public.**

Традыцыйныя беларускія святы цяпер складана адзначаць у адпаведных, ці, так бы мовіць, аўтэнтычных вясковых умовах. І калі асноўная частка насельніцтва жыве ў горадзе, то варта і святкаванне трансфармаваць у гарадскі ці клубны фармат, але з абавязковымі атрыбутамі аўтэнтыкі. Менавіта такімі меркаваннямі кіраваліся арганізатары сёлетняй калядна-канцэртнай імпрэзы. Думаецца, яны мелі рацыю.

Святочнае шэсце ўдзельнікаў у касцюмах, калядаванне з зоркай, Казой і Мядзведзем і, натуральна, песні і танцы — вось асноўныя атрыбуты клубных Каляд. І калі шэсце з калядаваннем атрымалася проста на «выдатна» і парадавала абсалютна ўсіх, то з песнямі і танцамі было не так аднаазначна. Мяркуйце самі. Распачаў вечарыну гурт «Альтанка», які выконвае беларускія песні ў адмысловай сучаснай аранжыроўцы. Ды толькі гучаць гэтыя спевы зусім не па-беларуску, а хутчэй як кепская копія папулярнай музыкі ці стары добры амерыканскі кантры. Працягнуў святкаванне маладых калектыў «Літы талер» — выхаванцы «Старога Ольсы», што выконваюць еўрапейскія сярэднявечныя і беларускія танцавальныя мелодыі. Магчыма, у іншым кантэксце гэтая музыка глядзелася б лепш, але, прабачце, якое дачыненне кампазіцыі *Ai vis so lop* і *Totentanz* маюць да беларускіх Каляд?

Наступную частку, якой вельмі-вельмі не хапіла часу, бо выступленні кожнага з калектываў доўжыліся толькі па 15 хвілін, я назвала б самай яркай, тэматычна абгрунтаванай і лагічнай. Гурты «Ветах» і *Guda*, як заўсёды, былі на вышыні. У іх выкананні гучалі нашы полька, «Лявоніха», а гледачы на некалькі хвілін ператвараліся ў танцораў. Шкада, што так мала было танцаў і так мала гучала сапраўдных калядак!

Завяршальным акордам вечара стала вялікае выступленне гурта «Палац», які выканаў кампазіцыі з новага альбома «Кола грукатала», а таксама старыя песні, што не граліся на канцэртах ужо многа гадоў.

Вось і атрымалася, што пад коўдру каляднага канцэрта паспрабавала змясціцца вельмі багата гуртоў, якія выконваюць надта ж розную музыку. Таму і мазаіка вечарыны выйшла такой стракатай, а ўражанні ад імпрэзы размазаліся-разліліся. Магчыма, камусьці менавіта гэтая стракатасць, разнастайнасць колераў і гукаў спадабалася найбольш, бо яна стварыла эфект сапраўднага фестывалю, ператварыла звычайны канцэрт у вялікую музычную падзею.

Як бы ні было, Піліпаўка ўжо скончылася і Каляды адсвяткаваныя. Да вас прыходзілі калядоўшчыкі з Казой і Мядзведзем, зычылі багацця і добрага ўраджаю? Так яно і будзе!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Гімн жыццю

**Урачыстае адкрыццё рэспубліканскай фотавыстаўкі «Свет у фокусе маіх адчуванняў», прымеркаванай да Міжнароднага дня інвалідаў, адбылося ў холе Інстытута культуры Беларусі. Імпрэза ладзілася ў межах дабрачыннага праекта «Ганна», які прысвечаны адной з першых сурдаперакладчыц Беларусі Ганне Лабацэвіч.**

Сам праект быў здзейснены дзякуючы старшыні Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Прафесійная творчая арцель мастакоў» Людміле Касяк, а таксама пры садзейнічанні рэктара Інстытута культуры Беларусі Канстанціна Рэмішэўскага. Дарэчы, аб'яднанне ў гэтым годзе святкуе 10-годдзе з дня ўтварэння.

Падчас цырымоніі адкрыцця выстаўкі «Свет у фокусе маіх адчуванняў» цёплыя словы ў адрас фотамастакоў выказалі прадстаўнік Міністэрства культуры Беларусі Таццяна Грыцук, намеснік старшыні Цэнтра кіравання беларускага аб'яднання глухіх Святлана Ганеева. На фотавыстаўцы прадстаўлена больш як 50 работ лаўрэатаў рэспубліканскіх конкурсаў. Паказаны творчыя працы людзей, якія ўваходзяць у грамадскае аб'яднанне «Беларускае таварыства глухіх». Мастацтва для іх не толькі хобі, але і спосаб самавыяўлення, паказ свайго непаўторнага бачання жыцця.

Ці шмат кожны з нас ведае пра людзей, абдзеленых фізічна, але моцных духам? Між тым, здараецца, яны жывуць нашмат цікавей, чым некаторыя фізічна здаровыя. Арганізаваная выстаўка не прэтэндуе на шырокі розгалас, але прыцягвае ўвагу гледача і... заваражвае: «гаворачы» цікавай мовай, што зусім не патрабуе сурдаперакладу!

Тонкім адчуваннем душы вылучаюцца фотапартрэты жыхара вёскі Перамога Гомельскай вобласці А. Пакацілы. Немагчыма забыць яго работу «Мая бабуля» — вобраз старэнькай у паркалёвай хусціначчы міжволі выклікае суперажыванне. Цяплом і сардэчнасцю вее ад работы гамяльчаніна А. Новікава: фотаэцюд «Мара Насці» паказвае нам маленькую дзяўчынку са сваім унутраным светам...

Цікава паказана прырода ў работах С. Іванова, А. Новікава, В. Ушакова, А. Акуліча, І. Варанюка, В. Сідарэнкі інш.

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Прафесійная творчая арцель мастакоў» і надалей будзе радаваць грамадскасць творчымі праектамі. Па словах Людмілы Касяк, ужо ідзе праца над нацыянальным праектам, у якім возьмуць удзел шматлікія мастакі і музыкі.

**Дар'я ЛЁСАВА**

## Каляндар знамянальных дат
### Студзень

**4** — 80 гадоў з дня нараджэння Івана Сяркова (1929 — 1998), беларускага пісьменніка.

**4** — 145 гадоў з дня нараджэння Ядвігіна Ш. (сапр. Лявіцкі Антон Іванавіч, 1869 — 1922), пісьменніка, драматурга, публіцыста.

**8** — 90 гадоў з дня нараджэння Алеся Савіцкага (Аляксандр Ануфрыевіч; 1924), беларускага пісьменніка.

**10** — 85 гадоў з дня нараджэння Міхася Яраша (Міхаіл Рыгоравіч; 1929 — 1987), літаратуразнаўцы, крытыка.

**12** — 95 гадоў з дня нараджэння Васіля Хомчанкі (1919 — 1992), беларускага пісьменніка.

**14** — 75 гадоў з дня нараджэння Васіля Шаранговіча (1939), графіка, педагога, народнага мастака Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**17** — 110 гадоў з дня нараджэння Алеся Якімовіча (1904 — 1979), пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**17** — 95 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Алоўнікава (1919 — 1996), кампазітара, грамадскага дзеяча, народнага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**25** — 145 гадоў з дня нараджэння Адама Гурыновіча (1869 — 1894), беларускага паэта, фалькларыста.

**29** — 130 гадоў з дня нараджэння Антона Луцэвіча (1884 — 1946(7)), палітычнага і грамадскага дзеяча, гісторыка, літаратурнага крытыка.

## Вiншуем

лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, слыннага творцу, галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Міколу Мятліцкага з высокай дзяржаўнай узнагародай — спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва!

Шчыра жадаем нашаму калегу плённай працы ў галіне мастацкага перакладу і натхнення на новыя кнігі.

**Калектыў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

## *Абрысы*

Супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна падрыхтавалі і выдалі каляндар знамянальных і памятных дат рэгіёна на 2014 год. На 164 старонках беларускамоўнага выдання размешчана 139 дат, якія адлюстроўваюць значныя падзеі гісторыі, палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця рэгіёна, дзейнасць вядомых вучоных, пісьменнікаў, звязаных з Прыдняпроўскім краем. Асаблівая ўвага нададзена 70-годдзю з дня вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў раёнаў Магілёўскай вобласці і 90-годдзю ўтварэння адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак рэгіёна.

Да свята Раства Хрыстова ў Музеі гісторыі горада Гомеля адкрылася V штогадовая выстаўка работ членаў фотаклуба «Святло душы». Клуб працуе пры духоўна-асветніцкім цэнтры праваслаўнага прыхода іконы Божай Маці «Усіх тужлівых Радасць». Галоўная ідэя экспазіцыі — імкненне чалавека да прыгожага, якое непазбежна прыводзіць яго да пошуку Боскага. Сваю асноўную задачу арганізатары выстаўкі, якая працуе з 8 студзеня па 9 лютага, бачаць у тым, каб праз мастацкі фотаздымак абудзіць пачуццё прыгожага, напаўняць сэрцы святлом дабрыні і духоўнай прыгажосці.

Санта Клаўс, Святы Мікола, Ёўлупукі — так называюць Дзеда Мароза ў розных краінах. Як паведамляе сайт Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага, аддзелам выданняў на замежных мовах падрыхтавана мультымедыйная прэзентацыя пра традыцыі святкавання Каляд і Новага года ў розных краінах свету. Пра тое, з чаго пачыналася гісторыя свята, у якія дні яно адзначалася і як рыхтуюцца да яго сёння на розных кантынентах, а таксама пра нацыянальныя асаблівасці каляднага стала і незвычайныя яго сімвалы можна даведацца з электроннай прэзентацыі «Навагоднія традыцыі розных краін свету», якая прапануецца для прагляду ў дні школьных канікул.

Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае 15 студзеня на літаратурны вечар памяці вядомага паэта Анатоля Вялюгіна, прысвечаны 90-годдзю з дня яго нараджэння. Мерапрыемства адбудзецца ў сталічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 17-й гадзіне.

Міхась ПАЗНЯКОЎ



# Вяртанне ў юнацтва

## Песня прыроды

*Я ў маленстве любіў завіруху,*
*Забіраўся ў глухі закуток,*
*І дыханне затойваў, і слухаў*
*Чыстазвонны яе гаварок.*

*Столькі чараў і музыкі дзіўнай*
*Нараджалася ў сэрцы маім.*
*І сядзеў я, шчаслівы, гадзіны —*
*Шчыры-шчыры прад светам усім.*

*Падкрадаўся мароз паступова,*
*Сіні вечар спускаўся на двор,*
*З неба месяц мядзянай падковай*
*Выкрасаў серабро белых зор…*

*І з дзяцінства майго ўжо заўсёды,*
*У мароз, у снягі, у слату,*
*Я, напоўнены песняй прыроды,*
*Чую сэрцам яе дабрату.*

* * *

*Звініць вярбы шкляное веце,*
*Прымерзла неба да зямлі.*
*Балюе ў полі белы вецер.*
*У садзе снегіры, здаецца,*
*На снег ранеты атраслі.*

*І лес бясконцай таямніцай*
*У срэбры велічна стаіць.*
*У хмарах сонца залаціцца,*
*І рэчка срэбная іскрыцца*
*І берагі ў рамонках сніць.*

* * *

*Снег — на травы, на кветкі.*
*Стыне боль на душы.*
*Хоць і з радасцю ўлетку*
*Мы былі — спарышы.*

*Лёд стрыножыў рачулку.*
*Час знявoліў тугу.*
*Сакавік прыйдзе гулкі,*
*Ручаі пабягуць.*

*Кветкі ўспыхнуць.*
*З травою*
*Пырсне водар лугоў.*
*Свет прачнецца табою,*
*Затрапеча ізноў…*

* * *

*Замяла зіма дарогі,*
*Час абрынула ў палон…*
*Ды ажывіць кут убогі*
*Характво святлістых дзён.*
*Завіруе бэз ля хаты.*
*Усміхнецца сад пладам.*
*Разляціцца сум кудлаты,*
*Як дыхнеш ты сонцам сам.*

* * *

*А душа, як неба,*
*Музыкай гучыць.*
*Слоў зусім не трэба,*
*Сіні снег звініць.*

*Абсыпае шчасцем*
*Нас дваіх з табой.*
*Сонечна ўсміхацца*
*У смузе густой.*

*Хуткая дарога,*
*Слодыч чысціні.*
*Характва жывога,*
*Лёс, не абміні.*

*…Развітальны позірк —*
*Мяккі, дарагі…*
*Крочу па дарозе*
*Белае тугі.*

*Праз сінечу ночы,*
*Шапатлівы снег*
*Бачу твае вочы,*
*Чую мілы смех…*

Надзея ПАРЧУК



## Дабрыдзень!

**Каляднае**

*Дабрыдзень, шаноўныя людзі!*
*І вечар хай прыйдзе з дабром,*
*Хай зорная ноч не забудзе*
*Святым ахінуць вас крылом!*

*Калі ж над зямлёй загарыцца*
*Заранка на ўсходзе нябёс —*
*Хай ваша душа азарыцца*
*І шчасцем асвеціцца лёс!*

*Хай Божы анёлак над вамі*
*З расхінутым крыллем ляціць,*
*А вы багацейце гадамі*
*І не стамляйцеся жыць.*

## Старонка мая дарагая!

*Старонка мая дарагая!*
*Ўсё клічаш-завеш да сябе —*
*Я гэта штодня адчуваю,*
*І ў шчасці сваім, і ў журбе.*

*Я чую твой гоман здалёку,*
*А ён мне такі дарагі!*
*Бо я ж з гэтых самых вытокаў,*
*Адны ў нас з табой берагі.*

*Твой голас пяшчотна-лагодны,*
*Казала і зноўку скажу,*
*Што ён мне — найлюбы і родны —*
*Натхняе і гоіць душу.*

*Што мне без яго гэтак сумна,*
*Як птушцы ў краінах чужых,*
*І я, замаўкаючы думна,*
*Малюся за продкаў сваіх.*

## Яблынька

*Спала яблынька узімку*
*Між радні сваёй,*
*Студзень белаю хусцінкай*
*Атуліў галлё,*

*Каб вятрыска хіжы, злосны —*
*Дужы маладзён —*
*Не ўварваўся ў яе вёсны,*
*Не парушыў сон,*

*Каб не здолеў замарозіць*
*Шчаснае жыццё...*
*А вясна-красна ў дарозе*
*Некалькі ўжо дзён —*

*Растапляе-разганяе*
*Хмары і снягі,*
*Лёд на рэчцы падымае,*
*Мые берагі.*

*Вунь з-за бору, з перазвону*
*Птушак гучны грай,*
*Расхінуўшы хмар заслону,*
*Свой вітае край.*

## ...Замяла завіруха дарогі

*Белы снег, мяккі снег, звонкі снег,*
*Ты маленства ізноў нагадаў мне:*
*І дзіцячы за вокнамі смех,*
*І маё праз акно сузіранне.*

*Бачу коўзанку тую ізноў,*
*Што ахвотна дзятву забаўляла —*
*Колькі ж радасных чуласа слоў,*
*Колькі ж смеху над ёю лунала!*

*І ніякае крыўды, калі*
*Раптам санкі сумёт падразалі,*
*І малыя, што зверху былі,*
*Пад палоззе якраз пападалі.*

*Ну, чыя тут, скажыце, віна?*
*Санкі ж самі ў сумёт скіравалі.*
*Ах ты, зімачка, зімка, зіма —*
*Беласнежныя вольныя далі!*

*...Лёткі снег, белы снег, мяккі снег,*
*Ціха падай, сцяліся пад ногі.*
*Час дзяцінства няўрымсліва збег,*
*Замяла завіруха дарогі.*

Фота Кастуся Дробава

Міхась МАМОНЬКА



Не дзіўна, што ў вершах Міхася Мамонькі так многа любові і пяшчоты, светлага чалавечага суму. Пасля вогненных франтавых дарог і дзесяткаў гадоў настаўніцкай працы цяпер ён жыве ў старажытным Тураве, сваёй шчырай песняй праслаўляючы гэты славуты надпрыпяцкі край. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў. Мае званне ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, Міхась Мамонька адзначае свой залаты юбілей — 85 гадоў з дня нараджэння. Да сардэчных віншаванняў ветэрану далучаецца і «ЛіМ», друкуючы новую паэтычную падборку юбіляра.

## На палескай зямлі

**Уладзіміру Гаўрыловічу**

*Сатканай*
*Ад вякоў*
*Небам і душой,*
*У дзікай цішыні*
*Балот і лясоў,*
*Стомлены ў полі*
*Адзінокі каласок.*
*Над ім*
*Сонца ўстае,*
*Над ім*
*Зоры гараць,*
*Тут годы*
*Кладуцца ў снапок*
*І маланкай*
*У хмарах іскрацца.*
*Гэта*
*Сэрца яго*
*Над краем палае,*
*Гэта*
*Душа яго*
*Набатам*
*З цемры гукае,*
*На волю імкнецца,*
*І рэхам*
*У далях,*
*Як вечнасць святая,*
*Пазалотаю льецца.*

## Там...

*Што значыць*
*Ля хаты жыць свае:*
*Чуеш*
*Жаўрука над сабою,*
*У кустах*
*Салавей пяе, —*
*Уся*
*Прырода гамоніць з табою.*
*А паехаць*
*Далёка куды —*
*Там*
*Ні жаўрука,*
*Ні салаўя*
*Душа не пачуе.*
*Там,*
*Здаецца, сонца няма,*
*Душа*
*Нібы з ночкай начуе.*
*Там —*
*Голас другі,*
*Там —*
*Неба другое,*
*Там*
*Кветка і тая*
*Зусім другая,*
*Не!*
*Зямля чужая*
*Для душы —*
*Пустая!*

## Прыходзь на Прыпяць

*Паслухай лета:*
*Тут*
*Спяваюць салаўі*
*У лазняках,*
*Тут лета*
*У сэрцы*
*Не змяшчаецца,*
*У Прыпяці купаецца,*
*Загарае*
*На пясчаных берагах.*
*Дзе ты ходзіш,*
*Каханая,*
*Радасць мая,*
*Мой спакой!*
*Тут зямля*
*Наша*
*Радзімая,*
*Горад Тураў,*
*Як бацька мой*
*Над ракой.*
*У чужых краях*
*Лета*
*Нашага*
*Не бывае,*
*Як і песні*
*Салаўя.*
*Прыходзь,*
*Прыходзь, дарагая.*
*Паслухаем лета*
*І ты, і я.*



## Уладзімір СЦЯПАН

# Рыба залатая

### *Навела*

Снег па-над сумётамі дымам… Іду праз парк.

У мяне ў нататніку ёсць яго тэлефонны нумар і адрас. Ведаю назву вуліцы, нумар дома і кватэры. Нават паглядзеў, дзе знаходзіцца той цагляны чатырохпавярховы дом на скрыжаванні вуліц. Аўтобусны прыпынак побач, гастраном цераз дарогу. Яго кватэра на другім паверсе, у другім пад'ездзе. Пра ўсё гэта я даведаўся хутка: дапамог інтэрнэт з яго схемамі і карцінкамі. Справа заняла чвэрць гадзіны.

Цяпер мне застаецца патэлефанаваць і дамовіцца пра сустрэчу. Ён, хутчэй за ўсё, не пазнае мой голас, але тады я скажу сваё імя і прозвішча, якія ён чуў тысячы разоў, якія павінен памятаць, а потым спытаю пра яго справы, і мы дамовімся. Мне трэба з ім сустрэцца. Патэлефанаваць Алегу магу з кватэры, а магу хоць зараз — са снежаньскай вуліцы, з парку. А калі не адкажа, то пазней, з двара, дзе стаяць засыпаныя снегам машыны і нагадваюць дыверсантаў у белых маскіровачных халатах. Маўклівыя, гатовыя да хуткіх дзеянняў. Я магу злавіць таксоўку і паехаць у тую Лошыцу. Машына падвязе да пад'езда, і я ўбачу вокны яго кватэры.

Але я не тэлефаную, хоць і ведаю нумар. Не еду, хоць і ведаю адрас. Іду праз парк, гляджу на белы снег, чорныя камлі дрэў і думаю пра яго. Пра свайго аднакурсніка, якога не бачыў шмат гадоў. Шмат… А калі дакладна, то з восені тысяча дзевяцьсот семдзесят сёмага. З той цёплай, сонечнай і шчаслівай восені.

Мне здаецца, што ён не здзівіцца, калі пачуе маё прозвішча. Цікава, а яго голас змяніўся? Можа быць… А позірк? Ці такі ж зацяты, цвёрды, калі так можна сказаць пра позірк шэра-сініх вачэй. Але ні яго голас, ні выраз твару, ні яго характар мяне не цікавяць. Справа зусім у іншым…

Большасць аднакурснікаў, ці амаль усе, — навідавоку. Нехта ў часопісе малюе, нехта на кінастудыі… Ёсць і тыя, хто выкладае ў акадэміі мастацтваў, у школах і каледжах. Карціны, карцінкі, малюнкі і малюначкі, вітражы, абразы, фрэскі. Некаторыя за мяжу з'ехалі, там інтэр'еры робяць. Карацей, усе пры справе.

І толькі ён, мой былы аднакурснік і таварыш, не навідавоку, не на слыху. Ён знік адразу пасля заканчэння вучылішча. Знік? Ён і не спрабаваў атрымаць вышэйшую адукацыю, як большасць з нас, не падаваў дакументы, не цікавіўся іспытамі, не вагаўся, на якое аддзяленне ісці, а таму і не пераймаўся нашымі клопатамі. Менавіта тады, калі мяне залічылі на першы курс тэатральна-мастацкага інстытута, я сустрэў яго на вуліцы. Выпадкова. Алег ішоў па праспекце ў шэрай палатнянай кепачцы, кашуля ў клетку, рабы пінжачок, штаны шэрыя і сандалеты, якія я так ненавіджу… Якія здаваліся мне старэчым абуткам. Алег ішоў засяроджаны, павольны, глядзеў пад ногі, упэўнены ў нечым, адно яму вядомым. Ён нёс пад пахай палатно, загорнутае ў газету, абвязанае накрыж рудым і кудлатым паштовым шпагатам, а ў левай руцэ — важкі партфель, дзенідзе ў плямках алейнай фарбы.

Мне здаецца, што ён тады трохі ўзрадаваўся нечаканай сустрэчы, нямоцна паціснуў маю руку. Сказаў, што на гэтым палатне, сорак на пяцьдзясят сантыметраў, напіша алейнымі фарбамі вэнджаную залацістую рыбіну. Што заўтра пойдзе ў краму, набудзе тую рыбіну і напіша яе. Чаму рыбіну, а не яблыкі, не кветкі, не хлеб, яйка, краявід з зялёнай зямлёй і сінім небам, не дрэвы вялікія і дом з чырвоным дахам, а рыбу… Яго крыху насцярожыла пытанне пра рыбу, але потым сказаў, што ён думаў і пра аўтапартрэт, але вырашыў, што аўтапартрэт можна і потым, праз месяц, год, а рыбу трэба напісаць тэрмінова. Ён бачыць тую рыбіну, светлую, залатую, на цёмным фоне, на такім, як глыбокая начная вада ці прадоністае неба з зоркамі. Я пасмяяўся, а што яшчэ мог зрабіць, калі пачуў пра вэнджаную, але як жывую вялікую рыбіну. Больш мы не бачыліся, з той цёплай восені семдзесят сёмага года...

У Алега былі старыя бацькі, якіх трэба даглядаць, а таму яго не ўзялі ў войска. А страляў ён выдатна. У партфельчыку насіў кніжку з малюнкамі Леанарда да Вінчы, а паміж старонкамі захоўваў мішэнь. Калі ён разгортваў тую слізкую кніжку, то доўга глядзеў на прабіты кавалачкамі свінца чорны кружок. Галаву Алег трымаў крышку набок, да правага пляча, мружыў вочы і задаволена пасміхаўся тонкім ротам, здзіўлены сваім спрытам і ўмельствам. Палкоўнік, тое было ў ціры, не паверыў сваім вачам, калі разглядаў дзіравую мішэнь. Ён не мог даць веры, што гэты цельпукаваты, няўклюдны хлопец так трапна страляе. Ён даў магчымасць Алегу яшчэ пяць разоў стрэліць. Не пашкадаваў патронаў. Аднакурснік лёг, адстраляўся і падняўся з зашмальцаванага брызенту. Ён трымаў у правай руцэ малакаліберную стрэльбу, але выглядаў зусім не ваяўніча, а хутчэй камічна. Прозвішча таго палкоўніка было Мухін. Мой аднакурснік атрымаў залік і ў падарунак другую мішэнь з пяццю дзіркамі, але колькі ён выбіў першы раз, Мухін не сказаў. Можа, усе дзесяць куль трапілі ў дзясятку? Магло ж быць такое.



*Уладзімір Сцяпан «Мінск. Вуліца Камсамольская пасля дажджу», 1982. Палатно, алей.*

Потым, калі я скончыў інстытут, вярнуўся з войска, сустрэў аднаго з нашых. Ён дыхнуў на мяне вострым гарэлачным духам і расказаў, што Алег працуе мастаком на мясакамбінаце ў Лошыцы. Само гэтае словаспалучэнне «мастаком на мясакамбінаце» мяне ўразіла і запомнілася. Яшчэ я даведаўся, што Алег лобзікам выпільвае з пенапласту літары, лепіць іх на планшэты з фотаздымкамі перадавікоў вытворчасці. Ні пра карціны, ні пра малюнкі я тады не спытаў, не даведаўся.

Не скажу, што шмат, але я думаў пра Алега. Мастак на мясакамбінаце… Мастак і мяса… І чым больш думаў, тым большую сур'ёзнасць і значнасць пачыналі набываць гэтыя словы. Здавалася, што за імі хаваецца вялікі патаемны сэнс, рэлігійны, як у будысцкім каане… Накшталт таго, як гучыць воплеск адной далоні… Адказ не знаходзіцца, але разгубленасць і спалоханасць ад пытання доўга вярэдзяць душу.

Я знайшоў яго тэлефон, бо ведаў прозвішча, імя і імя па бацьку. Звычайны мінскі нумар з сямі лічбаў, адрас. Перапісаў іх у нататнік, але не тэлефаную. Стрымлівае тое, што магу пачуць не яго голас. І той незнаёмы голас скажа, што мой аднакурснік памёр колькі гадоў таму. А ўсё, што было ў кватэры-майстэрні, выкінулі на сметнік. Палотны, кардонкі, малюнкі… І яшчэ я даведаюся пра прычыну раптоўнай смерці. Інсульт, рак, цыроз… Можа такое быць… І гэты страх мяне стрымлівае.

Яшчэ магу пачуць і здзівіцца, калі скажуць, што ён два гады, як прадаў кватэру і з'ехаў у вёску… Такое таксама можа быць, але яму трэба дапрацаваць да пенсіі: мы ж аднагодкі.

Я іду праз парк. Белы, як папера, снег, чорныя, як намаляваныя тушшу, дрэвы і рака, таксама чорная і бліскучая, нібы разлітая па вялікім аркушы паперы туш, якая плюхнулася з бутэлечкі і расплылася доўгай паўкруглай лужынай, падобнай да берага ракі…

Мне здаецца, што Алег працуе ў кватэры. Бацькі памерлі, яны і тады былі старыя, кватэра засталася яму. Хутчэй за ўсё, ён жыве адзін — мне так хочацца думаць, — ні жонкі, ні дзяцей, толькі палотны, фарбы, папера, кардон, падрамнікі, алоўкі, пэндзлі, кніжкі з рэпрадукцыямі. У майстэрні будзе пахнуць сталярным клеем. Як для тых, хто ад мастацтва далёкі, то гэта не пах, а самы сапраўдны задушлівы смурод. Як для мяне, то гэта — пах, нават водар. На падаконні чарга бутэлечак з празрыстым шкіпінарам, жоўтых з алеем і арэхавых з рознымі лакамі. Стол, мальберт, стэлаж на ўсю сцяну, завешаны палатном. Канапа, шафа з кніжкамі, два крэслы, эцюднік, палітра з гурбачкамі свежай фарбы…

Я нячаста згадваю свайго былога аднакурсніка. Але такія моманты бываюць. Мастак з мясакамбіната… Даўно, можа, гадоў дваццаць таму, давялося ездзіць па справах у той раён. Смурод быў такі, што мне хацелася як мага хутчэй адтуль уцячы. І калі мы былі навучэнцамі, то здзекаваліся з Алега і таго смярдзючага месца, дзе яму даводзіцца жыць. Ён толькі плячыма паціскаў на нашыя словы і працягваў зацята маляваць.

Хачу думаць, што ўсе гэтыя гады Алег маляваў. Што на сценах майстэрні шчыльна вісяць палотны. А на тых палотнах — рэчы, людзі, краявіды. Павінен жа быць хоць адзін з усіх, які не здрадзіў мастацтву, які зробіць тое, што не зрабілі іншыя, якія змарнавалі свой талент, ператварылі яго ў вядомасць, славу, грошы… Мне хочацца думаць, што гэта мой аднакурснік. Што ён адзіны з усіх.

Сустрэнемся. Алег будзе паводзіць сябе спакойна і насцярожана. Не стане мітусіцца і хвалявацца, бо яго сумленне чыстае. Ён, як сабе самому, пачне даставаць і паказваць палатно за палатном. Пераважная большасць карцін будзе без рам... Палотны і дошкі будуць стаяць, як голыя людзі, праўдзівыя ў сваёй дасканаласці, праўдзівыя ў сваіх недахопах. Упэўнены, што ўбачу шмат аўтапартрэтаў. Вось мой аднакурснік яшчэ зусім малады, такім я яго памятаю. Ён напісаў сябе ў высокім кухарскім каўпаку. Белым, як зефір, а твар суворы, пахмурны… А вось ён шчаслівы, падобны да караля і адначасова да блазна…

Будуць яблыкі, грушы, цыбуля і часнок. Яны выглядаюць значна і касмічна, як планеты і ў той жа час як нешта блізкае, знаёмае і роднае… Будзе рыба на палатне памерам сорак на пяцьдзясят. Яна блісне золатам лускі на баку, срэбрам жывата свайго, цёмнай, амаль чорнай спінай… Яна вялікая, на ўсё палатно, па дыяганалі… І я адчую яе пах… Краявіды, аўтапартрэты… І што мяне ўразіць — людзі з нажамі ў скураных фартухах і забітыя жывёлы, з якіх злупілі скуру. Людзі выглядаюць механічнымі ляльками, манекенамі, а забітыя быкі і каровы, свінні — жывымі, цёплымі, чырвона-бэзавымі… Сапраўднымі…

Вядома, і Алег не такі, як у семдзесят сёмым. Валасы вылезлі, зубы кепскія, пазногці брудныя ад фарбы, ён неахайна пагалены, як большасць старых і недагледжаных, кепска пастрыжаны, цяжка і перарывіста дыхае. Дзіўна, але не распытвае пра маё жыццё. Яму зусім не цікава, чым я займаюся, з чаго жыву, ці ёсць у мяне дзеці. І пра нашых аднакурснікаў яму нецікава. Ён хоча, каб я хутчэй пайшоў, каб пакінуў яго з рыбамі, яблыкамі, аўтапартрэтамі, палотнамі і малюнкамі…

І я пайду. Не, пагаджуся выпіць распушчанай кавы з бруднага кубка з адбітай ручкай. Пагаджуся толькі таму, каб яшчэ паўгадзіны глядзець на тое, што мог зрабіць я сам, але не зрабіў. Алег будзе ўздыхаць, маўчаць, і я зразумею, што самыя лепшыя палотны ён мне не паказаў, бо пашкадаваў, не хацеў засмучаць і дабіваць канчаткова…

У мяне ёсць яго тэлефонны нумар, і адрас ёсць. Але я ўсё не тэлефаную… І веру, што ёсць той, хто змог застацца мастаком… Няхай сабе і на мясакамбінаце.

Снег па-над сумётамі дымам… Іду праз парк.

# Сонца Алеся Савіцкага

Ёсць людзі, сустрэча з якімі заўсёды чаканая, бо хоць і ведаеш чалавека, упэўнены, што пры чарговым спатканні з ім абавязкова атрымаеш для сябе пазітыўны зарад энергіі, бо сваім аптымізмам, жыццялюбствам ён лёгка пераканае, што дабра на свеце ўсё ж болей, а «сонца адно на ўсіх». Гэтаксама ёсць пісьменнікі, чытаючы, а то і перачытваючы, творы якіх, разумееш, што нават калі і расказваецца ў ім пра штосьці драматычнае, а то і трагічнае, зноў жа нельга забываць, што «сонца адно на ўсіх» і яно не перастане адорваць зямлю святлом і цяплом, а значыць, застаецца жыць і любіць, не забываючы пра тых, хто аддаў сваё жыццё дзеля жыцця і шчасця іншых.

Менавіта такім чалавекам і пісьменнікам з'яўляецца Алесь Савіцкі. Алесь Ануфрыевіч Савіцкі. Колішні партызан, франтавік… Хаця чаму колішні? Партызаны, франтавікі, калі яны ваявалі па-сапраўднаму, заўсёды знаходзіліся на перадавой, такімі і застаюцца. Іншага, як кажуць, не дадзена, бо гэта не проста паняцці, гэта штосьці большае. Што — лепш за ўсё ведаюць яны самі. Нам жа застаецца радавацца, што калі-небудзь у час размовы прыгадаюць пра гады сваёй баявой маладосці, ці напішуць пра гэта ў кнігах, ці…

У маёй асабістай бібліятэцы шмат кніг з аўтографамі пісьменнікаў, у тым ліку і знакамітых, уганараваных званнем народнага. Але гэтая, падораная Алесем Ануфрыевічам, асабліва дарагая дзякуючы такому аўтографу:

*«Алесю Марціновічу*
*Дарагі мой дружа!*
*Няхай штодня сонца будзе ў тваёй душы, нават калі неба хмарна! З паклонам партызан Алесь Савіцкі. 31 студзеня 2012 г.».*

Называецца ж яна «Алесь Савіцкі: "Сонца на ўсіх адно"», а выпушчана выдавецтвам «Чатыры чвэрці», у якім дзякуючы няўрымслівай Ліліяне Анцух з 2008 года выходзіць серыя «Асоба і час». У кнізе гэтай нямала прыязных слоў пра Алеся Ануфрыевіча ад яго ных сяброў дый крытыкаў. З гэтых згадак паўстае прывабны партрэт найсумленнейшага чалавека і выдатнага пісьменніка, які — а гэта такое шчасце! — з'яўляецца нашым сучаснікам, хоць сёлета 8 студзеня разменьвае ўжо дзясяты дзясятак, а яго ная жыццёвая і творчая біяграфія вартая таго, каб скласці старонкі кнігі з серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі».

Нарадзіўся ў Полацку, да вайны скончыў восем класаў. У 1942 годзе ўзяўся за зброю. Калі Віцебшчыну вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пайшоў у дзеючую армію. Ваяваў у Польшчы, браў Берлін. Як многія пісьменнікі, пачынаў з паэзіі, а першае апавяданне напісаў у партызанскім атрадзе зімой сорак другога. Калі пасля дэмабілізацыі працаваў у тагачаснай полацкай абласной газеце «Бальшавіцкі шлях», спачатку было не да мастацкай прозы, бо пастаянна нагадвала пра сябе іншая проза — нялёгкія пасляваенныя будні. Пра гэты перыяд успамінае так:

«Па першым часе ў рэдакцыі я быў мала і камандзіроўкі ішлі бясконца. Расоны і Дрыса. Глыбокае і Ушачы. Асвея і Ветрына. Я бачыў вёскі, што не адбудоўваліся і вуліцы іх зарасталі альховікам — усіх жыхароў фашысты знішчылі. Бачыў жанчын, якія басанож па вясновай слоце неслі на сваіх плячах мяшэчкі з насеннем са станцыі, — а да станцыі той кіламетраў сорак! Бачыў, як гэтыя жанчыны, запрогшыся па чатыры ў плуг, аралі поле. Я сам цягаў гэты хамут. Я бачыў, як моршчыўся дзябёлы, добра ўкормлены амерыканец (амерыканская дэлегацыя была на Асвейшчыне ўлетку сорак шостага), адліваючы з кацялка ў бутэлечку крыху шчаўніку, чорнага, як зямля, нічым не запраўленага. Тады ў калгасніках не толькі Асвейшчыны была такая ежа. Я бачыў слёзы маці, горкія слёзы, калі сястра абярнула чыгунок з капустаю. Чыгунок быў ладны — ежа на ўвесь дзень! — і капуста была прыпраўлена маленькімі, як касачкі медзяныя, кавалачкамі сала. Абярнуць такі чыгунок! Хіба прыдумаеш горшую бяду!.. Бачыў мізэрныя кавалачкі хлеба па картках, бачыў ордэры, па якіх давалі тры метры чорнага сукна на год».

Пазней, калі ўсур'ёз заняўся літаратурай, канечне, гэтыя ўражанні спатрэбіліся, а пакуль даводзілася пісаць «на злобу дня». Праўда, у снежні 1948 года ў «Бальшавіцкім сцягу» апублікаваў сваё першае апавяданне «Рыбацкае шчасце». Дый узначальваў літаратурнае аб'яднанне пры газеце. А ў 1953-м паступіў у Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве, скончыўшы які, прадоўжыў вучобу ў аспірантуры і ўжо сур'ёзна заняўся літаратурнай працай. Паездка на будаўніцтва Брацкай ГЭС падказала тэму аповесці «Кедры глядзяць на мора» (1960). Праз два гады ўбачыла свет аповесць «Пасля паводкі». У гэты час ужо год, як пасля заканчэння аспірантуры вярнуўся ў Беларусь, загадваў рэдакцыяй у выдавецтве «Ураджай». З 1982 па 1969 год быў вучоным сакратаром Літаратурнага музея Якуба Коласа. Потым працаваў у апараце ЦК КПБ, дзе па 1973 год загадваў сектарам мастацкай літаратуры, пасля чаго перайшоў на творчую працу.

Алесь Савіцкі — адзін з самых актыўных беларускіх пісьменнікаў. Створанае ім вызначаецца высокай мастацкасцю, цудоўным веданнем жыцця, глыбокім пранікненнем у характары персанажаў. Алесь Ануфрыевіч з аднолькавым поспехам працуе ў розных жанрах — ад апавядання да рамана. Але ўсё ж у галіне буйной празаічнай формы яго ныя набыткі найбольш значныя. Праўда, у першым рамане «Жанчына» (1962) у раскрыцці характару галоўнай гераіні яшчэ часамназіраецца пэўная прамалінейнасць. Затое раман «Палын — зелле горкае» (1967) — з тых твораў, у якіх моцны жыццёвы патэнцыял, нямала яркіх і праўдзівых характараў.



Фота Кастуся Дробава

І ўсё ж найбольш важкае слова А. Савіцкі сказаў, асэнсоўваючы падзеі Вялікай Айчыннай вайны. У тым ліку і ў рамане «Зямля не раскажа» (1980), прысвечаным жыццю мірнага насельніцтва ў час акупацыі. Асабліва значны ўклад у адлюстраванне ваеннай тэмы ён унёс трылогіяй, што складаецца з раманаў «Верай і праўдай» (1976), «Літасці не чакай» (1982), «Памерці заўсёды паспееш» (1983). Гэта маштабнае мастацкае палатно, пра сям'ю рабочага-палачаніна Елісея Крупні, якая прайшла праз ваенныя выпрабаванні.

Па-майстэрску напісаны і раман «Верасы» (1985), у якім асабліва пераканаўча атрымаўся вобраз галоўнай гераіні. Студэнтку чацвёртага курса Маскоўскага медыцынскага інстытута Насту вайна заспела ў родным Полацку, дзе яна адпачывала ў маці. У час эвакуацыі дзяўчына адстала ад эшалона, разам з некалькімі ваеннымі выйшла з акружэння, а затым засталася з паранеными ў лесе… Дакладна прыкмеціла вядомы літаратуразнаўца і крытык Таццяна Шамякіна: «…раман «Верасы» выявіў найбольш моцныя бакі Савіцкага-мастака. Чалавек і свет тут разглядаюцца на мяжы двух стыхій — быцця і быту. Быццё — жыццё прыроды, адзінай абаронцы групы людзей, якія апынуліся ў неверагодна складанай сітуацыі, а таксама і каханне як самае прыгожае з чалавечых пачуццяў, што разгортваецца на фоне роднай прыроды. Быт — імкненне людзей выжыць, няглядзячы ні на што…»

Бязлітаснай праўдай вайны напоўнены і раман «Обаль» (1989) — дакументальны ў сваёй аснове, — героямі якога з'яўляюцца рэальныя людзі, падпольшчыкі Зіна Партнова, Фруза Зянькова, Мікола Зянькоў, Аркадзь Барбашаў і іншыя. Гэты твор вельмі дарагі пісьменніку, таму ў 2013 годзе Выдавецкі дом «Звязда» перавыдаў яго.

У сваёй творчасці А. Савіцкі закранае і маральна-этычную праблематыку. Што, прынамсі, відаць па раманах «Тры непражытыя дні» (другі варыянт — «Толькі аднойчы»), аповесці «І нічога ўзамен». Ярка заявіў пра сябе Алесь Ануфрыевіч і як дзіцячы пісьменнік. Найперш аповесцямі-казкамі «Радасці і нягоды залацістага карасіка Бублііка», «Прыгоды Муркі» і «Дзівосы Лысай гары», якія выдаваліся асобна, а потым у перакладзе самога А. Савіцкага на рускую мову папоўнілі «Бібліятэку Саюза пісьменнікаў Беларусі» (2007).

Алесь Ануфрыевіч — з тых людзей, якія пасля развалу Савецкага Саюза не здрадзілі сваім поглядам, не захісталіся, імкнучыся даказаць, што яны ў нечым «прозрели», а засталіся па-ранейшаму адданымі ідэалам маладосці. Аднак, як дакладна сказаў адзін з класікаў марксізму-ленінізму, «жыць у грамадстве і быць свабодным ад грамадства немагчыма». Нават для самых сумленных і прыстойных настаў час некаторай пераацэнкі маральных каштоўнасцей, з'явілася жаданне разабрацца ў тым, што было і што адбылося. Не дзеля таго, каб ад усяго адрачыся, каб жыць, не крывячы душою.

Такім роздумам і напоўнены раман А. Савіцкага «Пісьмо ў Рай» (2003), які сам пісьменнік назваў раманам-споведдзю. Галоўны герой Андрэй Смоліч, які аднолькава добра раскрыў свае творчыя магчымасці і як пісьменнік, і як журналіст, спавядаецца, як і чым ён жыў. Больш за тое, па сутнасці, раскрывае сваю душу, нічога не хаваючы. Нават таго, у чым, здавалася б, можна і не прызнавацца. Аднак ён разумее, што недасказанасць наўрад ці пойдзе на карысць, паколькі спавядаецца перш за ўсё перад бацькам, які загінуў у гулагаўскім засценку. Да бацькі і звяртаецца сын праз адлегласць і смугу часу, адпраўляючы пісьмо ў Рай:

*«Даруй…*
*Даруй мне, татка родны…*
*Даруй мне, мілы бацька мой, даруй…*

Гэтае маленне студзіць сэрца штораз, калі ўглядаюся ў твае вочы на фотакартцы, якую ты зберог у фашысцкім палоне. Цяпер даваяю яго паперы і дасылаю табе ў Рай. Перакананы, што ты цяпер там, бо кожнаму на згоне жыццёвага шляху на зямлі небам дараваны толькі дзве дарогі — альбо Рай, альбо Пекла. Пекла ты адбыў тут, на зямлі. А двойчы туды, як кажуць мудрыя людзі, трапіць немагчыма».

Нельга яшчэ раз не згадаць Т. Шамякіну: «Раман Савіцкага прасякнуты вялікім гуманістычным, жыццесцвярджальным пафасам. Сцвярджэнне жыцця — як і ў папярэдніх творах — адбываецца як сцвярджэнне дабра, прыгажосці, міру, кахання, сям'і, працы, любові да сваёй зямлі — тых самых каштоўнасцяў, якія маюць універсальны характар і з'яўляюцца ўмовай выжывання роду чалавечага. Уласнае шчасце чалавек павінен бачыць не ў тым, каб шмат чым валодаць, а ў тым, каб шмат што бачыць. Укараненне такой жыццёвай мудрасці праз мастацкую літаратуру заўсёды лічыў сваёй галоўнай місіяй пісьменнік-патрыёт».

Важкія творчыя дасягненні Алеся Савіцкага атрымалі высокую ацэнку. Аповесць «Самы высокі паверх» адзначана прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі (1970). Прэмію Саюза пісьменнікаў СССР і ВЦСПС за лепшы твор мастацкай прозы пра рабочага (1972) ён атрымаў за дакументальную аповесць «След пракладае першы» (у перакладзе на рускую мову яна называецца «Сверяю жизнь по времени»). Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь А. Савіцкаму прысудзілі за трылогію «Дзівосы Лысай гары» (2002). За раман «Верасы», а таксама за гэтую ж трылогію ён узнагароджаны расійскай літаратурнай прэміяй «Прохоровское поле» (2010). На грудзях пісьменніка некалькі ордэнаў і медалёў.

Сонца сапраўды адно на ўсіх. Але ёсць яшчэ сонца жыцця і творчасці А. Савіцкага. Яно свеціць усім, хто творцу ведае. Дык доўгіх гадоў Вам, дарагі Алесь Ануфрыевіч. Колькі — гэта аднаму Богу вядома. Ён жа Вас, несумненна, любіць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «Ліхалецце». Проста вайна…

Часопіс «Полымя» не так даўно завяршыў публікацыю шматтомнай эпічнай сагі Уладзіміра Гніламёдава. Назва пятага рамана, прапанаваная аўтарам, гучыць ёміста і проста — «Вайна».

Здаецца, яна больш адпавядае зместу твора і агульнай канцэпцыі ўсёй эпапеі, чым «Ліхалецце», — апошняе можа напаткаць і ў мірны час.

Побач з класічнымі складнікамі ваеннай тэмы настойліва гучыць альтэрнатыўны кантэкст: безуладдзе і бязладдзе першых ваенных месяцаў; асацыяльнасць, антыпатрыятызм і антынароднасць пэўных «элементаў»; адсутнасць маральнага, грамадзянскага адзінства паміж «Цэнтрам» і «лесам»; тэма пабытавага гераізму партызан і сялян — гераізму сумленнага выжывання.

Прыемна і значна, што з самага пачатку мы сустракаем знаёмыя твары, постаці з раманаў папярэдніх («Уліс з Прускі», «Расія», «Вяртанне», «Валошкі на мяжы»). Звычайныя справы сялян у ваенныя часы («Трэба было жыць, як бы цяжка ні было») на прылеглых да Прускі і аддаленых гонях нагадваюць звязаныя з імі гісторыі, перадусім гісторыю сям'і Кужаляў — аўтабіяграфічную аснову твора. Цэласнасць уражання, «эфект прысутнасці» урэшце спрыяе найбольш адэкватнаму ўспрыманню падзей.

З чаго пачыналася славутая «партызанка»? З заблукалых, напаўапранутых, абяззброеных, цудам ацалелых у першыя гадзіны ваеннай навалы вайскоўцаў і збеглых ваеннапалонных. Яны прыбіваліся адзін да аднаго, усталёўвалі такія-сякія схованкі. Стыхійна вылучаўся лідар-камандзір. Ратаваліся ад голаду, зрэдчас заходзячы да сялян. Псіхалагічна і, напэўна ж, фактычна дакладна адналяецца пераход лясных пакутнікаў да ўласна партызанскай справы. Так, перш за ўсё падняла і пагнала нуда бяздзейнасці: «У зямлянцы нам проста не перасядзець. Трэба нешта рабіць». Але што рабіць без зброі? Можна паваліць слупы, парэзаць дрот — немцы застануцца без сувязі (праўда, толькі пару дзён, а за «дыверсію» панясуць адказнасць сяляне).

Сяляне ж не рваліся на фронт і ў партызаны. Мабілізацыя першых дзён вайны іх не закранула (вельмі хутка прасунуўся вораг), і большасці ў галаву не прыходзіла кідаць гаспадаркі і сем'і: «Не ўсім па лесе бегаць, нехта павінен і хлеб сеяць». У аўтара сяляне з найбольш развітым маральным пачуццём пакутуюць менавіта таму, што заваёўваюць іх зямлю, менавіта зямлю, а не «савецкую радзіму». Але былі і такія, хто ўвогуле не адчуваў агіды да акупантаў. Маўляў, жылі пад царом, потым пад немцамі (у «тую вайну»), потым былі палякі, потым — саветы, а цяпер ізноў немцы. Тут «ці Гітлер — Сталіна, ці Сталін — Гітлера, а мы — што...» Былі і вар'яты, якія віталі ліхалецце — прастор для кантрабанды і рабавання. Да гонару аўтара трэба адзначыць, што ён не імкнецца «заднім чыслом» ушчуваць такіх асоб — іх выкрываюць справы.

Перадусім, найноўшы ваенны раман вылучае эпічнасць: ахоп баявых дзеянняў на тэрыторыі акупіраванай Савецкай Беларусі — ад пачатку вайны да вызвалення. Палатно, так бы мовіць, стэрэаскапічнае: партызанскі рух на ўсіх узроўнях, гвалт акупацыйнага рэжыму — ад дробнага ўціску да карніцкіх аперацый, неаднамернасць настрояў сялян. На «эпічнасць» працуе таксама інтэрнацыянальная тэма: у Беларусі ваявала шмат выхадцаў з розных саюзных рэспублік.

Размах і стракатасць усёй карціны трымаецца адзіным цэлым не толькі дзякуючы храналогіі аповеду, але і наяўнасці сапраўднага цэнтра. І роля гэтая належыць маленькай прыпушчанскай вёсачцы Прусцы, дзе творыцца мясцовая гісторыя, якая канцэнтруе падзеі гісторыі вялікай. Урэшце, ролю гістарычнага цэнтра можа адыграць любая вёска, а ролю храніста-дакументаліста — любы жыхар, якім кіруе прага захавання памяці і літаратурны дар.

**Лея ХАШЫМБА**

Рэдакцыя «ЛіМа», усведамляючы значнасць эпічных твораў У. Гніламёдава, мяркуе правесці прысвечаны ім «круглы стол». Запрашаем да ўдзелу!

# Пасля лістападу

Не так часта ў Беларусі выходзяць знакавыя кнігі. Што мы маем на ўвазе пад словам «знакавыя»? Удакладнім для таго, каб за дзвярыма майго працоўнага кабінета не выстраілася чарга з пакрыўджаных геніяў. Знакавая кніга — такая, якая, па-першае, падводзіць рысу пад пэўным часавым адрэзкам датычна пэўнай культурнай з'явы; па-другое, яна не толькі «рыса», яна з'ява сама па сабе. Натуральна, мы кажам не пра мастацкую літаратуру.

І вось, калі такая кніга з'яўляецца, я пачуваюся крыху расчараванай.

Пра кінафестываль «Лістапад» ведаюць усе. Хоць цяжка сказаць тое ж самае пра кнігу Людмілы Саянковай «Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад»: 20 гадоў апасля». Адразу заўважым, што назва не вельмі ўдалая: зацягнутая, незапамінальная — быццам назва сярэднявечнага трактата. Да таго ж, узнікае алюзія з творамі Дзюма. Больш арыгінальнай магла б быць і вокладка.

Але гэта ўсё адзёжка, па якой сустракаюць. З розумам у кнізе ўсё намнога лепш.

Я ўжо казала, што кніга пра кінафестываль «Лістапад» мусіла стаць знакавай. Людміла Саянкова, прызнаны кінакрытык, мастацтвазнаўца, сабрала фестывальныя агляды за 20 гадоў. Гэта значыць дзевятнаццаць блокаў тэксту (за апошні год агляду няма, а шкада) плюс інтэрв'ю з людзьмі, якія фестываль зрабілі, якія літаральна з лыжачкі яго кармілі, нібы дзіця, каб ён вырас да таго, што мы маем сёння — прывабнага, амбітнага маладзёна. У інтэрв'ю акрамя абстрактных разважанняў пра «магію кіно» мы бачым канкрэтныя праблемы, звязаныя з арганізацыяй «Лістапада», і большасць з іх актуальная па сённяшні, перадусім — фінансы, якія даводзіцца выбіваць, бо не ўсе чамусьці разумеюць, наколькі важна мець свой сапраўдны, дзейсны кінафестываль — а не проста прагляд кінастужак блізкага замежжа, як было напачатку. І, відаць, не ўсе разумеюць, як важна мець годную кнігу пра такі кінафестываль.

Аднак галоўны герой нашай рэцэнзіі — Людміла Саянкова. Яе тэксты — не проста пералік фільмаў з іх узнагародамі. Не проста апісанне — пра што, як і навошта. Як пазначае анатацыя, аўтар разглядае фільмы «ў кантэксце маральна-этычных пошукаў на мяжы стагоддзяў»; таксама — «стыль навукова-тэарэтычнага даследавання дапаўняецца стылем мастацка-лірычнага эсэ». Суха, але трапна. Здавалася б, ты чытаеш рэцэнзіі на фільмы, але насамрэч, незаўважна для цябе самога, на старонках разгортваецца цэлая панарама жыцця 1990-х гадоў і пачатку нашага стагоддзя. Не раз аўтар зазначала, што ў кіно адлюстроўваецца жыццё; вызначыўшы агульныя тэндэнцыі ў развіцці пэўнага віду мастацтва, можна дыягнаставаць хваробы часу. Гэты тэзіс (аксіёму, насамрэч) Л. Саянкова падмацоўвае шматлікімі прыкладамі. Не ведаю, ці сапраўды так супадала, што фільмы з розных краін распавядалі пра адно і тое ж (вайна, бытавая неўладкаванасць на постсавецкай прасторы, маральныя хваробы і інш.), ці аўтар так удала пераходзіла мосцікі з берага мастацтва на бераг жыцця, але ты проста дзіву даешся: вось жа, дастаткова сходзіць на пару фестывальных фільмаў, і ты ўбачыш, хто мы і куды мы ідзём.

Насамрэч такі казачны эфект утвараецца адно дзякуючы стараннямі аўтара.

Не менш значна і тое, што ў кнізе мы можам назіраць развіццё айчыннага кінематографа, які Л. Саянкова не шкадуе.

Аўтар не толькі дае ацэнку кінастужкам, не толькі сядзіць у зале з гледачамі, але і ахоплівае фестываль у цэлым. Часта яна паўтараецца: не хапае грошай, арганізацыя недасканалая, у кінатэатрах — холад, няма святочнай атмасферы — але тут ужо не яе віна, падзіцеся. Як кажуць, няма чаго на люстэрка крыўдаваць, калі сам не прыгажун.

Л. Саянкова піша лёгка і вытанчана, але часам стыль падаецца манерным. Пра некаторыя рэчы можна было б сказаць прасцей. Напрыклад, не «если соотнести количество фильмов на историческую тему с количеством фильмов на современную тему, показанных на фестивале, то приоритет явно будет за первыми», а «гістарычных фільмаў сёлета было больш». Зрэшты, тут справа густу. І ўсё ж, калі настрой у вас будзе ўзвышаны, кніга пойдзе «на ўра», калі не — могуць узнікнуць складанасці.

Рэзюмуючы, стыль апавядання падкрэслена жаночы. А большы фармат, больш «паветра» ў вёрстцы, каляровыя ілюстрацыі, іншая гарнітура і, безумоўна, вокладка зрабілі б выданне яшчэ лепшым.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Сатырык з лірай



Мікола Шабовіч здольны палепшыць настрой вытанчанай сатырай і гумарам. Ён напісаў безліч пародый, некаторыя з якіх сталі песнямі. Апошнім часам спадар Мікола выявіў яшчэ адзін талент — перакладчыцкі: з рускай мовы на беларускую і наадварот.

За гады творчасці Мікола Шабовіч выпрацаваў уласны стыль, які адбіўся і на перакладах: дастаткова прачытаць першыя радкі — і адразу пазнаецца аўтар. І гэта нягледзячы на тое, што літаратурны пераклад — справа няўдзячная. Яшчэ Гельвецый казаў, што перакладчык падобны да таго, хто адкаркоўвае бутэльку шыкоўнага віна, пасля чаго ўся духмянасць выветрываецца, але Мікола Шабовіч даводзіць, што пераклады маюць свой тонкі водар. Не кожнаму перакладчыку дадзена адчуць стыль аўтара, сэнсавыя адценні, паліфанію верша. Мікола Шабовіч здольны перадаць моўныя інтанацыі, усю гаму пачуццяў і характар гучання верша. Імпануе дакладнасць перакладаў, лёгкасць і прыгажосць. Галоўнае — адкрыць чытачам выдатную паэзію. Мікола Шабовіч пераствары́ў многія вершы Анатоля Аўруціна, Юрыя Фатнева, Юрыя Сапажкова, Валянціны Паліканінай, Браніслава Спрынчана, Генадзя Пашкова, Таццяны Лейкі, Аляксандра Быкава, Валянціны Гіруць-Русакевіч, Лізаветы Палеес, Ганны Міклашэвіч ды інш.

Найбольш удалымі атрымаліся пераклады на беларускую мову паэзіі Ю. Фатнева: «*Далеч весніцца, чыстая, сіняя... / Рэчка Бесядзь, спакой пады... / ...*» і арыгінал: «*Что-то синее, невыразимое... / Речка Беседь, пора мне, пора*»; «*Сонца з небнай сінізны / Залаціла кроны, / Як пілі ваду з Дзясны / Спутаныя коні*» і «*Солнце, глядя с вышины, / Золотило кроны. / Пили кони из Десны, / Спутанные кони*»; «*Васількі Расіі, дзеці жытняй далі, / У мяне імя вы нават не спыталі. / Толькі ледзь ад ветру затрымцелі, можа. / Я для вас, напэўна ж, як і ўсе, прахожы*» і «*Васильки России, васильки России, / У меня вы даже имя не спросили. / Только поклонились мне в росистой дрожи. / Я для вас такой же, как и все, прохожий*». «*Мора так бэзава-сіне ўскіпела. / Ці за акном расцвіла ўжо вербена... / Яхта чырвоная з ветразем белым — / Быццам бы прывід над кужалем пены*» і «*Море сиреневой синью запело. / Или цветет за окошком вербена? / Красная яхта под парусом белым, / Словно виденье, над кружевом пены*».

Пераклад верша А. Быкава «На радзіме Максіма Танка» вылучаецца тым, што і ў арыгінале, і ў беларускай версіі адчуваецца шчырая любоў да паэта: «*Я пришёл поклониться местам, / Где безбрежило Танково лето. / Вновь встречают меня два креста / На последнем приюте поэта. / Монотонно дождинки шуршат, / Птиц не слышно — лишь ветер колючий. / А Поэта все светит душа, / Пробивается даже сквозь тучи*» і арыгінал: «*Час прыспеў пакланіцца мяжы, / Дзе праменіла Танкава лета. / Сон вярэдзяць блізняты-крыжы, / Што вартуюць прытулак паэта. / Над старонкаю роднай — імжа, / Спахмурнелі дубы, як пракокі. / А Паэтава свеціць душа, / Прабіваецца зноў праз аблокі*».

А вось у перакладзе верша А. Быкава «Камяні» першыя два арыгінальныя радкі маюць больш змястоўнае гучанне, чым у перакладзе. «*Барануй, а затым барані / Сваё поле жыццёвае*», — піша паэт, і ў беларускай мове гэтыя два словы, такія падобныя, нясуць глыбейшы сэнс, які ў перакладзе страчваецца і замяняецца больш павярхоўным: «*Не забудь свое поле вспахать — / Поле жизни, с ухабами*». Безумоўна, даслоўны пераклад не патрэбны. Для перакладчыка галоўнае — адлюстраваць асноўную думку і настрой арыгінала.

Асобная катэгорыя — пераклады вершаў пра каханне. Гэтая тэма найбольш блізкая М. Шабовічу-паэту з яго выпрацаваным спакойным, мяккім стылем. У перакладзе вершаў Г. Міклашэвіч інтымная моўная палітра выяўляецца найбольш поўна: «*И мы когда-то жили поцелуями, / Встречали ночи радостно-напевные, / И наши чувства растекались струями... / Ты звал меня своею королевною*». Параўнаем: «*Калісь жылі мы толькі пацалункамі, / Страчалі ночы непаўторна-спеўныя, / І ты адорваў цёмных воч карункамі / І называў сваёю каралеўнаю…*»

Пераклады Міколы Шабовіча вылучае лёгкасць радка, але галоўная яго заслуга, безумоўна, у тым, што паэзія тут застаецца паэзіяй.

**Надзея СЕНАТАРАВА**

# Галіна Тарасюк: «Беларускую літаратуру люблю з калыскі»



Галіна Тарасюк — цікавы сучасны ўкраінскі празаік, перакладчык. Летась брала ўдзел у міжнародным круглым стале ў пярэдадзень Дня беларускага пісьменства. Літаратар — з ліку аўтараў «украінскай» кнігі серыі «Сугучча сэрцаў», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Наш карэспандэнт сустрэўся са спадарыняй Тарасюк у сталіцы Украіны.

**— Галіна, вы актыўна працуеце як арыгінальны празаік. Але яшчэ і перакладаеце. Не шкада часу?**

— Для добрай справы не шкада ні часу, ні сіл. Акрамя таго, на вялікі жаль (а можа, на шчасце?) я не штодня працую як арыгінальны празаік ці паэт. Толькі графаман, лічу, здольны пісаць штодня. А ў мяне, як і ва ўсіх творчых людзей, бываюць дні, месяцы і нават гады творчага «прастою», дакладней, акумуляцыі — павольнай, узважанай — новых сіл, уражанняў, пошук «новай якасці». Вось тады, калі не здатная пісаць сваё, займаюся перакладам. Каб не марнаваць часу і не «выпасці» з прафесіі, перастраваю — звычайна таленавітых іншамоўных братоў і сясцёр па пяры. Для мяне праца над перакладам высокамастацкіх твораў — заўжды добрая школа і цудоўная нагода адкрыць для сябе таямніцы чужой творчасці, папрацаваць у іншай манеры, іншым стылі, падзівіцца на свет чужымі вачыма. Але, паўтараю, астатнім часам гэта раблю не так і часта, паколькі выдаваць перакладную літаратуру ў нас становіцца ўсё цяжэй. Часцей рэдагую тыя тэксты, якія перастварае мая дачка Алеся Сандыга — прафесійная перакладчыца.

**— Наколькі вы ўважлівыя да сучаснай беларускай літаратуры?**

— Як і кожны ўкраінец, беларускую класічную літаратуру люблю з калыскі. У маладосці з задавальненнем перакладала Максіма Танка. Што да сучаснай беларускай літаратуры, то, прызнацца, зацікавілася ёю пасля таго, як пабывала гадоў шэсць таму на кніжнай выстаўцы ў Мінску. Спрыяла цікаўнасці і інфармацыя, якая далятала да нас у Кіеў з Мінска, уражанні складваліся досыць сумныя… На шчасце, выявілася, што сучасная беларуская літаратура на самай справе дужа цікавая, разнапланаваная, шчодра таленавітая, у пастаянным пошуку, з новымі адкрыццямі і знаходкамі. У гэтым пераканалася, пабыўшы восенню мінулага года на арганізаваным Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Выдавецкім домам «Звязда» міжнародным «круглым стале» ў Быхаве падчас Дня беларускага пісьменства. І пазнаёмілася тады багата з якімі пісьменнікамі — Алесем Бадаком, Таццянай Сівец, Навумам Гальпяровічам, Юліяй Зарэцкай. Каб ведаць, разумець і шанаваць творчасць адзін аднаго, пісьменнікі проста абавязаны сустракацца і сябраваць.

**— Што вас падштурхнула да перакладу твораў Людмілы Рублеўскай?**

— Пэўна, жаданне зрабіць добрую справу — пазнаёміць украінскага чытача з сучаснай беларускай прозай. Гэта была наша сумесная сямейная акцыя: недзе каля двух гадоў мы з дзецьмі працавалі над кнігай Рублеўскай «Гульня ў Альбарутэнію». Алеся перакладала, я рэдагавала, сын Назар вярстаў. Між іншым, працавалі без усялякай надзеі, што кніга будзе надрукавана. Мякка кажучы, рызыкавалі, добра ўсведамляючы ўсе цяжкасці з кнігавыданнем ва Украіне… Аднак Людміле Рублеўскай пашчасціла: нашу справу падтрымаў дырэктар Дэпартамента па справах кнігавыдання і прэсы Дзяржкамтэлерадыё, вядомы пісьменнік і перакладчык Аляксей Анатольевіч Кананенка… Так сумеснымі намаганнямі ў межах дзяржаўнай праграмы з'явілася на свет украінская кніга Л. Рублеўскай «Гульня ў Альбарутэнію», у якую ўвайшоў аднайменны раман і дзясятак навел.

Але сапраўднае адкрыццё беларускай літаратуры для мяне адбылося зусім нядаўна, калі рыхтавала падборку беларусаў для часопіса «Київ» і сама пераклала паэзію Таццяны Сівец, прозу Алеся Бадака, Юліі Зарэцкай, Алены Брава, творы іншых аўтараў… Мяне радуе, што маладыя беларускія пісьменнікі сур'ёзна працуюць у гістарычным жанры, у літаратуры для дзяцей, уздымаючы надзвычай важныя маральна-этычныя праблемы, пытанні патрыятызму, выхавання нацыянальнай годнасці. Не цураюцца і сацыяльных праблем.

**— Перакладаючы творы, ці шукаеце ім адпаведнасць у сваёй нацыянальнай літаратуры?**

— Не, здараецца хутчэй другое: мяне вабяць творы, для якіх, груба кажучы, няма люстэркавага адпаведніка ва ўкраінскай сучаснай літаратуры — па тэматыцы-праблематыцы, па стылі і манеры пісьма… Вось цяпер цешуся, перакладаючы, напрыклад, казкі аднаго аўтара. І зайдрошчу светлай зайдрасцю — на жаль, я не магу так лёгка і прыгожа пісаць для дзяцей.

**— Ці не падаецца вам, што час «дружбы народаў» праз «дружбу літаратур» даўно мінуў?**

— Ніколі! Я перакананая, што той благаслаўлёны час толькі цяпер і настае. Мы дужа доўга былі занятыя ўласнымі нацыянальнымі самасцвярджэннямі на ніве літаратуры. І, дзякаваць богу, шмат што зрабілі. Пара ўжо і падзяліцца гэтымі здабыткамі, пахваліцца ўласнымі адкрыццямі і пацешыцца поспехам суседзяў. Нішто так не збліжае, не паядноўвае людзей і народы, як літаратура і мастацтва.

**— Дарэчы, што ва Украіне робіцца для развіцця міжнародных літаратурных стасункаў?**

— На мой погляд, робіцца недастаткова, і тое на ўзроўні асабістых сувязей і сімпатый. Але ёсць надзея. І мне прыемна, што з усім Выдавецкім домам «Звязда», з галоўным рэдактарам часопіса «Нёман» Алесем Бадаком мы сёння намагаемся вырвацца з таго вузкага і вязкага кола на шырокую і вышэйшую планетарную арбіту. Доказ таму — прэзентацыя сучаснай беларускай літаратуры на старонках часопіса «Київ», публікацыі перакладаў твораў некаторых пісьменнікаў у «Літературній Україні» і «Українській літературній газеті», і — кніга «Сугучча сэрцаў: Беларусь — Україна» «Залатая струна», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».

**— У нас выходзілі альманахі перакладной літаратуры «Братэрства», «Далягляды», «Ветразь»... Ва Украіне — часопіс «Всесвіт»... Ці магчыма, на ваш погляд, адрадзіць сёння падобную выдавецкую практыку?**

— Чаму б і не? Было б жаданне!

**— Набліжаецца юбілей Тараса Шаўчэнкі... Як вы лічыце, ці магчымы новы зварот, напрыклад, беларускіх перакладчыкаў да паэзіі класіка ўкраінскай літаратуры?**

— Усё залежыць ад вашай волі, дарагія беларускія сябры. Украінцы толькі б дзякавалі. А для мяне асабіста вялікім падарункам была б магчымасць пабачыць бессмяротныя творы Тараса Шаўчэнкі беларускай мовай у перакладах маладых літаратараў, тых юных талентаў, без удзелу якіх беларуска-украінскія літаратурныя і людскія стасункі не маюць перспектывы.

**Кастусь ЛЕШНІЦА,**
**Кіеў — Мінск**

# За што не сорамна душы…

**Галіна Тарасюк**

## Паэзія

*Для кагосьці — візітоўка з вензелем,*
*для кагосьці — катарга, іншым — доля.*
*А для мяне ты — Дзікае поле,*
*Паэзія.*

*Як жа мне вольна ў табе, мой раю!*
*Хачу — ару, хачу — жну калоссе,*
*а не — да пушчы пускаю косю*
*і сяджу… на жалейцы граю.*

*Хай жа твая ды свяціцца воля*
*У слове кожным маім і кроку!*
*Азірнуся — слепну ад цемры-змроку:*
*Ворагаў на паўполя!*

*На паўнеба, як хмара з градам…*
*Труганам — за мяне маленне.*
*А ў мяне адзін шыхт — сумленне,*
*а ў мяне адна зброя — праўда.*

*…Адгрыміць, адбаліць да краю,*
*раны пылам тваім прыцярушу*
*і… хачу — сабіраю крушні,*
*а не — на жалейцы граю.*

## Чацвёрты сон Тараса Шаўчэнкі*

*І той — глядзі! — з лычом ікластым,*
*І гэты — у кальчузе з бляскам,*
*Архіерэй і фарысей,*
*Ліхвяр, блудніца і лунатык,*
*Цэнтурыён, чарнец, граматык,*
*Цар Ірад, катаржнік Варава,*
*Пятро й «зняверaны» Фама,*
*Пілат і Юда Скарыём —*
*Увесь натоўп, уся гурма —*
*Усе яны — ад першых дзён —*
*Твой назаўжды Богаабраны,*
*Праклятi Богам —*
*твой народ!*
*Так, гэта ён!*
*Ты, ім распяты,*
*Яму не кідаеш праклён!*

* У розныя гады Т. Шаўчэнка напісаў тры творы пад назваю «Сон».

## ***

*Дзяцінства рай… Гудуць грушчы,*
*І мама, травенькаю вішняй,*
*Смяецца… Лёгка на душы,*
*І мне ўсміхаецца Усявышні.*

*Жыццёвы вір: то ў жупане*
*Пад голым небам, то ў харомах…*
*І сорам мне душу кране,*
*І Бог мяне ці абароніць?..*

*Пральюцца вечнасці дажджы,*
*Паўстане рунню лёсу брашна*…*
*Чаму ж так сорамна душы*
*І перад Богам гэтак страшна?*

* Жытняя мука (старажытнарускае).

## Сямейны партрэт 1948 года

*Сорак восьмы год. На лаўцы,*
*каля хаты — вокны насцеж, —*
*тата з мамаю сядзяць.*

*Зыркія каралі ў мамы,*
*А ў вачох — нябёсы самі…*
*Гусі з выраю ляцяць.*

*Вышыта кашуля ў таты,*
*спраў у таты так багата:*
*ён цяпер і муж, і зяць.*

*Тата хутка стане татам.*
*Ды пра гэтакае свята*
*мы пакуль не знаем.*
*Толькі на старэнькім фота,*
*летуценны, бестурботны,*
*мамін позірк ззяе.*

## На сёмуху дождж

**Алаізу Вольдану**

*Хтосьці збіраўся ў царкву,*
*ды, не маючы грошай на свечку,*
*дома застаўся ў вокны*
*глядзець на зялёны дождж,*
*спорны і сумны,*
*як травы ў бацькоўскім садзе,*
*бо страшна прызнацца Богу,*
*што і на хлеб няма ўжо.*
*З брамы насупраць,*
*дождж падмінаючы коламі,*
*паўзе лімузін.*
*«Бог яго любіць», —*
*думае той,*
*хто на свечку не мае,*
*пра таго,*
*у доўгай чорнай машыне.*
*Нядзеля. Сёмуха. Дождж.*

## Жаночая аповесць

**У чатырох частках з эпілогам**

### Дзяцінства

*Скажы-скажы,*
*зязюлечка,*
*колькі мне гадочкаў*
*яшчэ расці да мамчыных*
*туфлікаў дзявочых?*

### Юнацтва

*Бяжыць рэчка —*
*вада нізка,*
*беражок змывае.*
*Ой, ці ў лузе,*
*ой, ці ў сэрцы*
*Салавей спявае?*

### Сталасць

*Яшчэ ўчора ды звячора*
*звінелі каралі,*
*сёння ж зыркія каралі*
*ды вятрыскі скралі…*
*Каліна-маліна*
*пры дарозе…*

### Старасць

*У зялёным леце*
*на бялюткім кввеце*
*дрэмле цень пчалы.*
*Толькі ў тое лета*
*снягі белым кветам*
*Усе шляхі-дарогі*
*замялі.*

### Эпілог

*За снягамі-жамчугамі*
*Ружа адцвіла.*
*Азірнулася-зірнула —*
*Як і не была…*

## Ноч перад неўміручасцю

**(з 9 на 10 сакавіка 1861 г.)**

*І праступіць на шкле Багародзіцы лік,*
*І, бы душы казацкія, словы зляцяцца,*
*збяруцца ўсе разам.*
*І згадаецца раптам,*
*як табе вырывалі язык*
*«найвышэйшым указам»…*
*І наўкола гудуць*
*мірыяды нямоўленых слоў,*
*нібы пчолы над сотамі —*
*саладка гэтак і густа,*
*Ды ніводная, як бы ты ні хацеў,*
*як бы там ні было,*
*Не спыняецца*
*па-над вуснамі Златавуста…*
*Хай заходзіцца ў крыку*
*замучаных словаў мільён,*
*Ды душа твая больш не адкажа на трэбу…*
*І адкрыецца раптам:*
*няўжо і бязмоўе твае*
*Не цару ўжо, а Богу патрэбна?!*

**Пераклад з украінскай**
**Таццяны СІВЕЦ**







# Масток паміж мовамі

Англійская, нямецкая, шведская, нарвежская, галандская, французская, іспанская, партугальская, італьянская, літоўская, латышская, польская, украінская, беларуская, руская, эсперанта і кітайская… Складана нават уявіць, што адзін чалавек можа валодаць усімі гэтымі мовамі, а яшчэ — перакладаць прозу ды паэзію, пісаць вершы, мець адукацыю філосафа. Сёння мы знаёмім чытачоў «Кніжнага свету» з такой вось незвычайнай асобай. Пра спецыяльныя методыкі вывучэння замежных моў, запаўненне лакун перакладной літаратуры на беларускай мове і парады маладым перакладчыкам — наша гутарка з сапраўдным паліглотам Юрасём Жалезкам.

**— Спадар Юрась, як атрымалася, што вы зацікавіліся замежнымі мовамі і перакладам?**

— Як гэта заўсёды вядзецца, усё пачалося яшчэ са школьных часоў. Падчас навучання ў школе я займаўся прафесійным плаваннем. Але ў 9-м класе пераключыўся на мовы. У школе вывучаў англійскую мову, але нам яе выкладалі не вельмі добра, таму займаўся самастойна. Накупляў падручнікаў і выкарыстоўваў кожны вольны дзень для заняткаў. Так за два гады я вывучыў англійскую мову даволі добра: потым яе не давялося больш вучыць. У 9-м класе пайшоў на курсы нямецкай мовы, што тады ладзіліся ў Доме афіцэраў. Там займаўся прыкладна год. Пасля заканчэння школы вырашыў паступаць у Інстытут замежных моў на перакладчыцкі факультэт. Тут я вывучаў тры мовы: англійскую, французскую і італьянскую. Пачаў вывучаць і іншыя. Я скончыў перакладчыцкі факультэт з чырвоным дыпломам, год вучыўся ў французскім Грэноблі. Таму яшчэ ў інстытуце досыць добра вывучыў французскую мову. Увогуле, мовы вучу ўсё сваё жыццё.

**— Ці існуюць спецыяльныя методыкі вывучэння моў, у адпаведнасці з якімі вы працуеце?**

— Прыкладна дзесяць моў я ведаю досыць добра. Сем — горш. Але на гэтых дзесяці мовах я магу свабодна размаўляць, усё разумею. Як вучу мовы? Усё вельмі звычайна: бяру падручнікі і чытаю. Чытаю толькі тэксты. Граматыку і тлумачэнні пакідаю па-за ўвагай. У мяне ўжо выпрацавалася такая сістэма. Я быццам «глытаю» тэксты і з імі ўсю лексіку. Граматыку мне чытаць увогуле не патрэбна. Справа ў тым, што калі ўжо ведаеш столькі моў, то разумееш, што ні ў воднай з іх няма нічога надта новага, усё ўжо вывучана. Калі б зараз заняўся нейкай мовай, то змог бы вывучыць яе за некалькі тыдняў. Я не магу не вывучаць мовы, увесь час імі займаюся. Гэта ўжо і хобі, і прафесія, і лёс. У цэлым жа магу сказаць, што здзейсніў мару свайго жыцця: вывучыў 17 моў.

**— Гучыць фантастычна. Ці складана ўтрымліваць у памяці столькі інфармацыі аж на 17 мовах?**

— Кожная мова займае сваю «ячэйку» ў галаве і працуе. Магу адзначыць, што вывучэнне моў — справа захапляльная. Часам я адмыслова раблю падарожжы ў лінгвістыку. Напрыклад, беларускае слова «каза» і англійскае слова «cheese», сыр. Паміж імі ёсць масток — нямецкае слова сыр — «Käse». Гэта прыклады старажытных слоў, якія даўно існуюць у мовах. Такія падарожжы даказваюць, што ўсе еўрапейскія мовы родныя. Ці, да прыкладу, англійскае слова «to dream» — спаць, марыць — і беларускае слова драмота. Латышскае слова «gulta» — ложак — і беларускае «гультай».

Я раіў бы ўсім займацца мовамі. Ад гэтага ёсць сапраўдны плён: трэніруецца памяць, развіваецца мысленне. А самае вялікае задавальненне — калі вывучыш мову, на ёй размаўляць.

**— Адным з асноўных аспектаў вашай дзейнасці з'яўляецца пераклад мастацкай літаратуры на беларускую мову. А тут з чаго ўсё пачыналася?**

— Гэта адбылося напрыканцы навучання ў інстытуце. Тады я пазнаёміўся з нашым вядомым перакладчыкам з нямецкай мовы Васілём Сёмухам і арганізаваў выданне кнігі «Навелы» Гі дэ Мапасана ў перакладзе на беларускую мову. Потым шмат часу прафесійна займаўся перакладчыцкай дзейнасцю, на пераклад мастацкай літаратуры пераключыўся толькі ў апошнія гады.




**— Цяпер над чым працуеце?**

— Не так даўно скончыў перакладаць нарвежскія народныя казкі. У планах — перакласці трэцюю частку «Малога і Карлсана-з-даху» Астрыд Ліндгрэн: дзве ўжо перакладзеныя. Таксама хочацца перакласці «Прыгоды Тома Соера» Марка Твэна, «Апавяданні пра жывёл» Э. Сетан-Томпсана, з французскай — кнігу Андрэ Датэля «Краіна, у якую ніколі не патрапіш». Задумаў яшчэ і пераклад рамана «Сто гадоў адзіноты» Габрыэля Гарсія Маркеса. Стараюся перакладаць з тых моў, з якіх на беларускую мала што перакладзена і з якімі сёння мала хто працуе. Таму пакідаю па-за ўвагай нямецкую, французскую. Канцэнтруюся на шведскай, іспанскай, нарвежскай.

**— Цяпер многія перакладчыкі актывізавалі свае сілы, выходзяць новыя і новыя кнігі, з'яўляюцца спецыяльныя сайты. Як ацэньваеце працу нашых перакладчыкаў мастацкай літаратуры?**

— Сапраўды, з'явілася шмат новых перакладаў, і ў цэлым цяпер выходзіць больш перакладных кніг, чым у савецкія часы. Перастварэнні робяцца на даволі высокім узроўні. Канечне, самы лепшы, фактычна, узорны перакладчык — Васіль Сёмуха. Ён азнаёміў беларускага чытача з усёй нямецкай літаратурай. Калі чытаеш кнігі ў яго перакладзе, атрымліваеш сапраўдную асалоду: у яго цудоўная, смачная беларуская мова, а пераклады ні ў чым не саступаюць арыгінальным мастацкім творам, напісаным адпачатку па-беларуску.

Я таксама перакладаю паэзію з замежных моў: нарвежскую, англійскую, французскую, іспанскую, італьянскую.

**— Кажуць, што ў такім выпадку перакладчык павінен вельмі акуратна абыходзіцца з тэкстам арыгінала, не пературацаць яго ў падрадкоўнік. Як знайсці залатую сярэдзіну паміж арыгіналам і перакладам, каб ён усё ж заставаўся вершам пэўнага паэта, а не стаў новым творам перакладчыка?**

— Каб верш пераклаўся добра, павінна прыйсці натхненне. Інакш зрабіць якасны пераклад занадта складана. Бо трэба перадаць усё, што ёсць у арыгінале, і зрабіць так, каб яно добра гучала па-беларуску. Перакладаць вершы — практычна тое ж, што і пісаць іх. Гэта натхненне, натхненне і яшчэ раз натхненне. Напэўна, з гэтай прычыны перакладу паэзіі навучыць немагчыма. Мне здаецца, што для такой працы ў чалавека павінна быць божая іскрынка. А для прозы дастаткова проста добра ведаць абедзве мовы.

**— Ці ёсць паэты, якіх вам асабліва падабаецца перакладаць?**

— Так, гэта Генры Лангфела, Кен Хенслі — з англійскай мовы, Віктар Гюго — з французскай.

**— Якая самая любімая з перакладзеных вамі кніг?**

— Мне вельмі падабаецца — хаця яна лёгка перакладалася — кніга Астрыд Ліндгрэн «Малы і Карлсан-з-даху». Напісана жывой гутарковай мовай. Працуючы над перакладам, я амаль не карыстаўся слоўнікам. Падкрэслю, што ў цэлым перакладаць дзіцячую літаратуру намнога больш складана, чым дарослую. Для такіх кніг патрэбна дасканалае валоданне мовай. У дарослай літаратуры гэта не так важна, а ў дзіцячай проста неабходна, каб пераклад добра гучаў па-беларуску. Таму перакладчыкам-пачаткоўцам я раіў бы пачынаць менавіта з дарослай літаратуры, а потым пераходзіць на дзіцячую. На беларускую мову ўвогуле перакладзена шмат дзіцячых твораў. Фактычна ўся сусветная класіка, акрамя казак Ганса Хрысціяна Андэрсена. Беларуская мова — адзіная мова ў Еўропе, на якую пакуль не існуе прамога перакладу яго казак. Хочацца перастварыць і яго.

**— На якія творы сусветнай класікі акрамя тых, што ў вашых планах, вы параілі б звярнуць увагу перакладчыкам?**

— Мне хацелася б пачытаць па-беларуску кнігу Роберта Пена Уорэна «Уся каралеўская раць», раманы Артура Хейлі, увогуле, сучасную класіку ХХ ст. Па сутнасці, на беларускую мову з такой літаратуры амаль нічога не перакладзена, акрамя кнігі Колін Макалоў «Птушкі ў цернях», але яна выйшла яшчэ ў савецкія часы. Я параіў бы ўзяцца менавіта за такія творы, напісаныя па-англійску.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Форум-2014



# «Рэгістр» запрашае

Інфармацыйна-прававое агенцтва «Рэгістр» традыцыйна з'яўляецца актыўным удзельнікам Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Асабліва прыемна, што апошнім часам тут звяртаюць шмат увагі не толькі на папулярную белетрыстыку, але і вяртаюць чытачам забытыя ці страчаныя творы беларускай літаратуры.




Падчас леташняга форуму «Рэгістр» уразіў наведвальнікаў яркімі навінкамі і прэзентацыямі, а таксама адмысловым тэматычным афармленнем стэнда. Яно змянялася штодзень у залежнасці ад таго, якая кніга прадстаўлялася. Так, «пасылку з мінулага» тут можна было атрымаць падчас прэм'еры кнігі Якуба Брайцава «Сярод лясоў і балот»; у радзільным аддзяленні наведвальнік «апынаўся» ў дзень прадстаўлення кніг Тамары Лісіцкай «Пацалунак бусла» і Юліі Ляшко «Мамачкі мае», а стаць героямі шпіёнскай прыгоды мог кожны аматар прозы Сяргея Пясецкага, у прыватнасці, рамана «Пературованы ў ваўка».

Сёлетняя праграма «Рэгістра» мусіць быць такой жа насычанай. Падчас ХХІ ММКВК выдавецтва прэзентуе новыя кнігі, якія пабачаць свет акурат напярэдадні форуму. Гэта гістарычны раман «Тэстамент князя Гедыміна» Юрыя Татарынава, навінка ад Юліі Ляшко «Твары шчасця. Імёны любові» і выданне «Чужыя дочкі» юрыста з 40-гадовым стажам Лідзіі Азарынай. Упэўнена, што яркім акцэнтам стане і прадстаўленне рускамоўнага перакладу знакамітай кнігі Сяргея Пясецкага «Каханак Вялікай Мядзведзіцы». Гэты раман, які калісьці прынёс поспех аўтару-пачаткоўцу, упершыню перакладзены на рускую мову.

У адзін з дзён працы ХХІ ММКВК пройдзе ўзнагароджанне пераможцаў другога сезона літаратурнага конкурсу «Першая глава», а таксама прэзентацыя кнігі яго першага пераможцы. Летась ім стаў Ігар Паляков, з чыёй кнігай «Прасторы» зусім хутка можна будзе пазнаёміцца. Гэтае творчае супрацоўніцтва ўжо два гады запар «Рэгістр», сумесна з праграмай «Культурная сфера» на радыё «Сталіца», ладзіць для адкрыцця новых імёнаў у літаратуры, а таксама каб дапамагчы аўтарам-пачаткоўцам выдаць першую кнігу. У склад журы конкурсу ўваходзяць вядомыя журналісты, літаратурныя крытыкі, пісьменнікі, кнігагандляры.

**Юзэфа ВОЎК**

*Нататкі рамантычнага маркетолага*



**Кацярына СІМАН**

# Букіністыка ці антыкварыят?

Апошні месяц года заўсёды складаны. Нехта падводзіць вынікі за пэўны перыяд, у іншых жа гэтыя тыдні супадаюць з завяршэннем асабістых эпох. Так здарылася, што і для расійскіх кніжнікаў пачатак снежня быў адзначаны фінальнай кропкай. *«Федэральная бюджэтная ўстанова навукі «Расійская кніжная палата» ліквідуецца, яе маёмасць будзе перададзена інфармацыйнаму агенцтву ІТАР-ТАСС»*, — такая заява была апублікаваная афіцыйна. Чым гэта пагражае як кнігавыданню, так і бібліятэчнай справе Расіі, меркаваць не будзем: рана рабіць высновы. Ды і не пра тое мы сёння збіраліся пагутарыць.

Я прыгадала гэты факт як дадатковы аргумент у скарбонку тых, хто не змаўкаючы кажа пра завяршэнне справы друкавання кніг. Але любая падзея біпалярная. Літаральна праз некалькі дзён пасля навіны пра ліквідацыю РКП я натрапіла на выдатнае інтэрв'ю з Сяргеем Бурмістравым і Анатолем Госцевым. Гэта антыквары ад кнігі, якія некалькі гадоў таму стварылі ў Маскве аўкцыённы дом «У Нікіцкім». Гэта не магло не парадаваць, бо не так даўно мы з вамі гаварылі пра букіністычныя выданні. Мы выдатна ведаем, што не ўся букіністыка — антыкварыят. Але па сваёй сутнасці яны нібыта брат і сястра.

Пры пэўных умовах і абставінах амаль любая кніга (за выключэннем літаратуры нізкага гатунку) мае шанц стаць не толькі каштоўным букіністычным экзэмплярам, але і бясцэнным антыкварным рарытэтам. Менавіта таму тэорыя пра тое, што кнігі на паперы хутка знікнуць, няправільная з пункту гледжання логікі. Цалкам заканамерна, што будзе павялічвацца колькасць лічбавай інфармацыі ў параўнанні з тымі ж «папяровымі» паказчыкамі. Аднак дзякуючы букіністычнасці папяровая кніга застанецца назаўжды ў ліку культурных і гістарычных аб'ектаў.

Гэты факт адзначаюць многія кнігагандляры. Кніга не памірае, але становіцца аб'ектам мастацтва. Калі ў ранейшыя часы словы «бібліяфіл» і «калекцыянер кніг» можна было лічыць практычна сінонімамі, то цяпер гэта не так. Сёння розніца заключаецца ў тым, з якой мэтай чалавек набывае рэдкую кнігу: для інфармацыі ці дзеля статусу, да прыкладу, стаць уладальнікам выдання «Героя нашага часу», што пабачыла свет за год да смерці Лермантава. У апошнім выпадку ён выключна калекцыянер. Пры гэтым кнігагандляры-букіністы адзначаюць, што зусім не змяншаецца колькасць тых, хто шукае рэдкія выданні з асветніцкай мэтай. Хоць і ў гэтай сферы заўважаецца змяншэнне аб'ёмаў звароту. Да прыкладу, бібліятэкі ўжо не з'яўляюцца асноўным аб'ектам інтарэсу тых, хто хоча прадаць рэдкае антыкварнае выданне. Прычыны зразумелыя: фінансавыя магчымасці пакупніка.

Камерцыя і сучасныя тэхналогіі не маглі абмінуць і такую шырокую сферу, як букіністыка. Цяпер ужо не самі калекцыянеры, а дылеры набываюць жаданыя асобнікі. Хаця на постсавецкай прасторы гэта ўсё яшчэ ў навіну. А вось тыя, хто не гоніцца за інкунабуламі і палеатыпамі, карыстаюцца паслугамі букіністычных пошукавых сістэм у інтэрнэце. Ды і кожная буйная кнігарня мусіць завесці на сваім сайце асобны сервіс для букіністычных выданняў.

Кожная кніга абавязкова знойдзе свайго чытача, колькі б год ёй ні было. Мы з вамі ведаем: страсць да чытання не ведае межаў — прасторавых ці часавых.

*100 год кнізе*

# Тварыць і кахаць

**Здараецца так, што для пісьменніка першая кніга становіцца самай яркай і пасляховай за ўвесь творчы шлях. Ці то запал маладосці з часам праходзіць (а з ім і натхненне), ці то пакручастыя сцяжыны лёсу ўсё далей адводзяць аўтара ад новых якасных твораў. Падаецца, што творчы лёс беларускай пясняркі Канстанцыі Буйло менавіта такі. Яе першая кніга «Курганная кветка», што пабачыла свет 100 гадоў таму, стала ў той жа час і самай яркай — своеасаблівай вяршыняй, на якую аўтарка ўжо больш не здолела ўзняцца ў наступных зборніках.**




27 лютага 1909 г. на старонках газеты «Наша ніва» быў упершыню надрукаваны верш К. Буйло «Хвоя», пад аўтарствам яе брата, бо сама паэтка на той час баялася пасылаць творы ў газету. Але ўжо верш «Лес», змешчаны ў «Першым беларускім календары «Нашай нівы» на 1910 год», а таксама «Вясной», «Мне сніўся сон», «Дзяўчына», «У бяссонную ноч», «Курган», апублікаваныя ў «Нашай ніве» ў 1910 г., былі падпісаны яе іменем. Маладую і таленавітую паэтку першым заўважыў і падтрымаў Янка Купала. Станоўча ацэньваў паэтычныя дасягненні дзяўчыны і малады, але патрабавальны літаратурны крытык і публіцыст Сяргей Палуян. У артыкуле «Беларуская літаратура ў 1909 гаду» ён адзначае: «*Малады, але свежы паэт — Буйло*». А ў 1911 г. М. Багдановіч у такім жа аглядавым артыкуле «Глыбы і слаі» піша: «*Адна толькі Канстанцыя Буйла абяцае развіцца ў сапраўдны асабісты талент*». Праз два гады ён пацвярджае свае першыя меркаванні. Таму і не дзіўна, што ў такой добразычлівай атмасферы, заручыўшыся падтрымкай знаных паэтаў і крытыкаў, дзяўчына хутка стала на крыло, і ўжо ў 1914 годзе ў Віленскім выдавецтве Марціна Кухты пад рэдакцыяй Янкі Купалы выйшла першая кніга К. Буйло «Курганная кветка».

Адметна, што вокладку гэтага паэтычнага зборніка аформіў Язэп Драздовіч. Выява жанчыны-сфінкса на ёй з'яўляся невыпадковая: таямнічасць, загадкавасць, багатая фантазія — вызначальныя характарыстыкі маладой паэтэсы. Сам верш «Курганная кветка» ў кнігу не ўвайшоў, хоць быў напісаны ў тым жа 1914 г., але пасля падрыхтоўкі зборніка. Назва зборніка — «Курганная кветка» — таксама сімвалічная. Гэта і кветка шчасця — Кветка Папараці, што ўзыходзіць Мужыку, роднаму краю; кветка паэзіі, што яснее на курганах мінуўшчыны, у снах пра яе; і кветка начных дум, сноў лірычнай гераіні пра каханне, пра каханага. Гэта і кветка людской тугі, жыццёвага гора, якога не можа пазбыцца паэтэса, бо гэтае гора — гора яе народа, няшчасны лёс Мужыка з яго «доляй-мачыхай». Разам з тым, некаторыя даследчыкі, напрыклад, Алег Лойка, зазначалі ўплыў модных у сімвалісцкай паэзіі матываў асалоды небыцця, самога ўсясветнага суму, які ясна адчуваецца ў кнізе.

К. Буйло як паэтэса развівалася ў рэчышчы рамантычнай традыцыі, увасобленай у літаратуры пачатку XX ст. Янкам Купалам. Аднак яна змагла знайсці сваю ўласную інтанацыю, стварыць свой вобразны свет і ўзбагаціць рамантычную традыцыю беларускай паэзіі. Пранікнёна гучыць у яе кнізе «Курганная кветка» патрыятычная тэма. Верш «Люблю» стаў папулярнай песняй. Народныя матывы ў ёй не зводзяцца да простага перайmання, стылізацыі, а паказваюць глыбокае разуменне паэткай сутнасці фальклору, яе здольнасць «аднавіць» працэс стварэння народнай песні. Паэтка даверліва раскрывае сваю душу, поўную любові да ўсяго роднага, блізкага, дарагога, нанізваючы ў адзін эмацыянальна-вобразны лад з'явы роднай прыроды, культуры, побыту.

Аднак самая багатая паводле настрояў, адценняў пачуцця ў творчасці К. Буйло перыяду «Курганнай кветкі» — лірыка кахання. Паэтэса здолела дасканала развіць традыцыі народнай паэзіі, у прыватнасці, лірычныя, баладныя, рамансавыя інтанацыі, узбагачаючы іх духоўным і мастацкім досведам неардынарнай асобы. «Тварыць і кахаць» — гэты паэтычны радок, вынесены ў назву верша, увасабляе пафас творчасці К. Буйло — пафас маладосці і жыццесцвярджэння. Каханне ўсведамлялася маладой аўтаркай як найвялікшая таямніца творчасці і яе сэнс, як пабуджэнне да творчасці самой асобы, непаўторнага «я». Адметна, што ў гэтым вершы зліваюцца ў адно інтымныя і патрыятычныя матывы, ён нясе стваральныя, адраджэнцкія інтанацыі.

Сучаснік Канстанцыі Буйло, літаратурны крытык Антон Навіна (Луцкевіч) у кнізе «Нашы песняры» параўноўвае талент і творчыя асобы дзвюх паэтэс-сучасніц: «*Цётка і Буйло — найбольш выдатныя жаноцкія тыпы ў беларускай паэзіі, але якія ж гэта розныя тыпы! Цётка — уся адзін парыў у вышы, да высокіх ідэалаў... Буйло — маладая, поўная сіл і ахвоты да жыцця дзяўчына... у яе вершах чуюцца гарачыя словы кахання, што яна жджэ той любові, якую бачыць толькі ў марахснах, якую душа яе прадчувае*». У лірыцы кахання К. Буйло дамінуюць матывы прадчування, чакання чагосьці радаснага, яшчэ не зведанага. Таму тут няма паэтызацыі страсці, ёсць толькі сненне, чаканне, душэўнае хваляванне і памкненне насустрач каханаму. А. Навіна называе гэту здольнасць «эратычнай інтуіцыяй» (пад «эротыкай» у літаратуры пачатку XX ст. разумелі творы, у якіх галоўнае — любоў, каханне, любоўныя настроі і перажыванні), таму ён лічыць: «*...мы маглі б назваць «песнямі кахання» вершы яе, сабраныя пад загалоўкам «Курганная кветка». Але гэтым не абмяжоўваюцца тэмы яе вершаў, бо, пры яе інтэлектуальным развіцці, жыццё вабіць яе ўсімі сваімі праявамі*».

Лірыцы К. Буйло ўласціва і драматызацыя ўзаемаадносін паміж лірычнымі героямі па прычыне нейкага фатальнага непаразумення («Не магу», «Не глядзі...», «Адна»). Рэфлексія лірычнай гераіні грунтуецца найперш на асабіста-інтымных перажываннях, але яе паэтычная думка імкнецца асягнуць бязмежжа свету і чалавечых пачуццяў:

*Адна, ізноў адна…*
*А вецер думцы ўторыць,*
*І стогнамі мяне ўцішае ён сваймі:*
*— Я — брат табе, я друг,—*
*мне, стогнучы, гаворыць,—*
*Адзін нас ломіць боль —*
*дык плачмо ж разам мы!*

К. Буйло нездарма лічыцца стваральніцай традыцыі дзявочай інтымнай лірыкі ў беларускай літаратуры. Лірычная гераіня яе інтымных вершаў — новы ў літаратуры таго часу вобраз, як і паэтычны вобраз вачэй — люстра душы, перажыванняў, чалавека, яго ўнутраный чысціні і хараства. У лірыцы К. Буйло прыкметны рамантычная настраёвасць, пэўная экзальтацыя пачуцця («Не магу…», «Не глядзі…»).

Паэтыка К. Буйло вызначаецца традыцыйнай рамантычнай скіраванасцю: у яе творчасці дамінуюць такія рамантычныя жанры, як элегія, песня, балада. Паэтка вельмі тонка адчувае эмацыянальнасць песеннага слова, часам ускладняючы яе рамансавымі інтанацыямі. Вялікую папулярнасць атрымаў яе сюжэтны верш «Рута», які стаў народнай песняй. Выкарыстоўвае яна і багатую народную і міфалагічную вобразнасць, трансфармуючы яе шляхам лірызацыі, насычэння іх асобасным зместам, што аднаўляла фальклорныя традыцыі, узбагачала іх. Яшчэ А. Навіна адзначаў «Русалак» К. Буйло як «*белы верш з добра вытрыманай рытмікай, які можна залічыць да яе лепшых твораў*». І сапраўды, у гэтым творы паказаны не толькі пакуты маладой дзяўчыны, лірычнай гераіні, яе спеў пра каханага, але і спагадлівасць, чуласць яе сяброўак — русалак, што сведчыць пра такую лірызацыю казачных вобразаў, якая пераўзыходзіць узровень фальклорнай традыцыі без парушэння асноўных яе канонаў.

У пачатку XX ст. адбываецца станаўленне не толькі літаратурнай, але і драматычнай, тэатральнай традыцыі на Беларусі. Менавіта тэатр бачылі шматлікія прыхільнікі «беларушчыны» (ужо згаданы С. Палуян быў смелым абаронцам беларускага тэатра) адным з «індыкатараў» паспяховага развіцця культуры. Спрычынілася да справы развіцця тэатра і К. Буйло. Яна — аўтарка двух паэтычных драматычных твораў: «Кветка папараці» (фантастычны абразок у адной дзеі) і «Сягоннявшнія і даўнейшыя» (драма ў 3 дзеях), якія таксама ўвайшлі ў кнігу «Курганная кветка». Цікава была задуманая паэтычная драма «Сягоннявшнія і даўнейшыя», напоўненая філасофскім роздумам пра шлях чалавека. Традыцыйны канфлікт — каханне сялянкі і паніча — атрымлівае развязку не ў класавай сферы, а ў духоўнай. Падпарадкоўваючыся волі бацькі, Раман, герой твора, становіцца ксяндзом і пакідае каханую Ганулю. Пазней ён, хворы на сухоты, вяртаецца ў родную вёску, сустракаецца з Ганулай, вядзе з ёй дыялогі, у якіх раскрываецца яго жыццёвая пазіцыя: шчырае каханне да вясковай дзяўчыны спалучаецца з роздумам пра нябеснае і зямное прызначэнне чалавека, пра «дваякі голад».

Гэтай вершаванай драмай К. Буйло закранула досыць новую тэму: яна стварыла няхай сабе не вельмі дапрацаваны і хутчэй інтуітыўна адчуты, чым змаляваны з прататыпа вобраз ксяндза-беларуса, безнадзейна хворага, але душой адданага справе нацыянальнага адраджэння.

Пасля выхаду «Курганнай кветкі» паэтэса вершаў амаль не пісала. Спачатку гэта было звязана з закрыццём «Нашай нівы», у іншыя ж выданні твораў амаль не прапаноўвала. Апроч таго, апанавала творчая дэпрэсія — з'ява нярэдкая ў літаратурным асяродку, калі пасля першай кнігі асобныя аўтары замаўкаюць надоўга, а то і зусім не могуць стварыць нешта новае. А яшчэ праз некаторы час стала зусім не да творчасці: арыштавалі мужа, назваўшы «ворагам народа». Калі што і выходзіла з-пад пяра, дык саму паэтку тое не надта здавальняла. Яе другая кніга паэзіі «Світанне» пабачыла свет толькі ў 1950 годзе. Зборнік не стаў, аднак, з'явай у літаратуры.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Стать Дэном Брауном

Думаю, если бы американского писателя Дэна Брауна на самом деле не существовало, его нужно было бы выдумать. Как пример весьма успешного автора, которого литературные критики ругают, а читатели просто обожают, пример удачной писательской карьеры и захвата книжного рынка многих стран. С одной стороны, в его истории всё до банальности просто: карьера педагога, первые книги, признание, успех, экранизации и каждый последующий роман — событие и сенсация. Но есть и обратная сторона — взгляд читателя. А вот тут не так просто всё спланировать и предугадать. И не каждый автор может похвастаться тем, что с его романом (!!!), как с путеводителем, путешествуют по Риму, отмечая яркие места, вспоминая события книги, а потом, показывая дома фотографии из поездки, отмечают: «Вот об этом месте писал Дэн Браун, и мы там были». А Браун — может! Кстати, сегодня мы представляем его новый роман «Инферно», который вышел при поддержке ООО «Харвест».



### ОТ ДА ВИНЧИ — К ОБМАНУ

Не знаю, как вы, а я поначалу с большим удовольствием читала книги этого американца. Тогда, во время моей учёбы в университете, когда подобными романами ещё не был наполнен рынок (или мы так думали), они казались весьма неплохими, захватывающими, а главное — свежими. «Код да Винчи» читался за ночь и передавался одногруппникам по виртуальной «очереди»… Кстати, я только теперь заметила, что в русскоязычном пространстве порядок выхода книг Дэна Брауна не совпадает с оригинальным. Если в США его успех двигался по восходящей — от скромной «Цифровой крепости» в 1998-м и до фактически венценосного «Кода да Винчи» в 2003-м, то у нас было всё наоборот. Выход бестселлера «Код да Винчи» повлёк за собой перевод и издание других книг писателя — романов «Ангелы и демоны», «Цифровая крепость», «Точка обмана».

Что же так привлекает читателя в книгах Дэна Брауна? Думаю, всё дело в удачном сочетании черт разных жанров. Интеллектуальный детектив благодаря неразгаданным тайнам и преступлениям заставляет прочесть до конца. Триллер делает чтение захватывающим и подталкивает сопереживать героям. Роман-загадка наталкивает на новые мысли и идеи, провоцирует искать ответы вместе с главным героем. Обратим внимание и на него. Кому не нравится умный, обаятельный, бесстрашный, стильный профессор Лэнгдон?

Возможно, что успеху книг и их экранизаций во многом содействует и некоторая скандальность. Так, после выхода фильма «Код да Винчи» в 2006 году архиепископ Анджело Амато, секретарь Конгрегации доктрины веры,




призвал зрителей бойкотировать фильм. Амато назвал книгу Брауна «*пронзительно антихристианской, полной клеветы, преступлений и исторических и теологических ошибок относительно Иисуса, Евангелия и враждебной церкви*», списав её успех на «*чрезвычайную культурную бедность большого количества верующих христиан*». Амато призывал христиан с большим усердием «*отклонять ложь и дешёвую клевету*». После такой громкой рекламы кто пройдёт мимо и не задержит взгляд на полке с книгами Дэна Брауна?

Не меньший интерес вызвал и роман «Утраченный символ», который вышел в 2009 году. И если «Код да Винчи» и «Ангелы и демоны» — два первых романа о Роберте Лэнгдоне — затрагивали вопросы взаимодействия науки и церкви, интерпретации религиозных доктрин, то новая книга обратилась к ещё одной любимой теме — тайнам ордена масонов. Впрочем, автор не просчитался и получил отличный результат: роман был опубликован тиражом в 6,5 миллиона экземпляров. И уже в первый день было продано более миллиона экземпляров книги в твёрдой обложке и электронной версии в США, Канаде и Великобритании.

### ВМЕСТО ЛЕКЦИЙ ПО КУЛЬТУРОЛОГИИ

Уже знакомый нам профессор истории искусств Гарвардского университета Роберт Лэнгдон приходит в сознание в больничной палате с раненой головой и потерей памяти о событиях последних нескольких дней. Его последние воспоминания касаются Гарварда, но больница находится во Флоренции, в Италии. Сиенна Брукс, местный врач, говорит, что он получил сотрясение мозга в результате пулевого ранения и оказался в отделении скорой помощи. Роберта начинает преследовать женщина по имени Вайента, одетая, как панк. Именно так завязывается сюжет нового романа Дэна Брауна «Инферно». А дальше — лучше: Лэнгдон видит во сне женщину, напоминающую ему библейскую фразу «ищите — и найдёте», которая станет ключом к разгадке таинств. Итак, в центре книги — первая часть «Божественной комедии» Данте «Ад». Ну и всё, как всегда у Брауна — загадки, ребусы и головоломки на основе «Божественной комедии», исследование самой книги, её предыстории, автора, влияния поэмы на итальянский язык.

Многие читатели в отзывах об «Инферно» отмечают, что раньше оригинала «Божественной комедии» в руках не держали, да и из лекций по литературе и культурологии мало что помнят. А теперь столько всего прочитали, столько знают! Хорошо бы всё-таки обратиться к книге Данте. Хотя бы по скрытому (или прямому) «совету» Брауна.

Помните, я говорила, что книги Дэна Брауна можно читать и как путеводители? В этом романе автор снова переносит нас в Италию, но на этот раз мы попадаем не в Рим, а во Флоренцию, Венецию и Стамбул. Как всегда искусно, писатель вплетает в сюжет книги описание красоты этих городов, приводит исторические сноски, рассказывает легенды и подаёт описания архитектуры, памятников культуры, картин, фресок, произведений искусства... Плюс ко всему на протяжении книги читатель постоянно «слышит» мелодичное, эмоциональное звучание итальянского языка. Кстати, издателям на заметку: многие читатели жалуются на отсутствие в романе картинок. Мол, сложно было читать только описания памятников и не видеть их изображений, всё время нужно было искать что-то в Интернете… Так может, стоит выпустить его новое, иллюстрированное, издание — как роман-путеводитель? Думаю, многие были бы довольны. Конечно, нашлись бы и недоброжелатели, как это всегда бывает с книгами Брауна.

Кстати, о недоброжелателях. На этот раз они отмечают поверхностность сюжета, бедность языка и скудность диалогов, а также традиционность развития событий. Как всегда, с Лэнгдоном что-то случается, он получает таинственное послание, начинается беготня с разгадыванием загадок, а потом наступает (неожиданная или предсказуемая) развязка. Ну и по традиции профессору помогает красивая и очень умная женщина. С одной стороны, такие критики посвоему правы. Как-то уж очень однотипно всё у Брауна. Но, с другой стороны, глупо читать новую книгу о Лэнгдоне (уже четвёртую) и надеяться на то, что, может быть, на этот раз всё изменится.

Думаю, что и поклонники творчества Дэна Брауна, и его недоброжелатели роман всё же прочитают. Их всех захватит сюжет (а он действительно не отпускает до последних страниц), немного удивит слегка неожиданный и туманный финал, восхитит мастерство рассказчика. И пусть одни скажут, что книга — шедевр, будут её советовать друзьям и знакомым, писать восторженные комментарии на сайты, а другие отметят и бездарность автора, и однотипность построения повествований серии, факт остаётся фактом: и те, и другие книгу купят и *прочитают*. А значит, цель всё же будет достигнута: новый роман Дэна Брауна займёт место на книжной полке. И обязательно — рядом с остальными книгами автора.

Кстати, возможно, что очень скоро нас ждёт новая экранизация романа Дэна Брауна. Уже вышли фильмы по книгам «Код да Винчи» и «Ангелы и демоны». Ещё в конце 2009 года было анонсировано, что и третья книга о Роберте Лэнгдоне, «Утраченный символ», будет экранизирована и выйдет в 2012 году. Вскоре премьера была перенесена на конец 2013 года. Однако позже стало известно, что *Sony* будет экранизировать не третью, а четвёртую часть приключений знаменитого профессора — новый роман «Инферно». Премьера предварительно назначена на декабрь 2015 года, постановщиком согласился быть Рон Хогвард, а главную роль вновь исполнит актёр Том Хэнкс.

**Чеслава ПОЛУЯН**




# Борьба за жизнь

Журналист и писатель Кен Фоллетт — из числа тех немногих авторов, которым ещё при жизни был установлен памятник. Автору таких монументальных шедевров, как «Столпы Земли» и «Мир без конца» каменный прототип воздвигли в испанском городе Витория. Однако писатель получил признание и мировую славу лишь после выхода в свет его главного творения, коим стал написанный в 1978 году роман «Игольное ушко». Недавно книга была издана в переводе на русский язык при поддержке ООО «Харвест».

Этот шпионский детектив уже через год после выхода заслужил «премию Эдгара Аллана По» как лучший роман. Фоллетту на тот момент было 29 лет. Общий тираж книги составил около 12 миллионов экземпляров, детектив был переведён на 30 языков. Не зря именно «Игольное ушко» привело писателя к славе. Роман актуален, всё, что можно в нём найти — от авторского стиля и до острых сюжетных поворотов и коллизий, — доведено до блеска, выдержано в лучших традициях жанра. «Ушко» по своему наполнению, внутренней иронии и подвижному состоянию сравнимо с детективами Дэвида Финчера и таинственностью Стивена Кинга. Всё, что есть в этом романе, отглаженное и неповторимое, затронет глубины вашей души.

…Вторая Мировая война. 1944 год. Легендарная союзническая операция — высадка в Нормандии — под большой угрозой. Враг не должен узнать о ней. Однако главный герой, агент под прикрытием Игла (настоящее его имя Фабер), узнаёт правду. Этот супершпион — ближайший соратник Гитлера, лучший агент немецкой армии. Если информация просочится за пределы страны, враг узнает о нападении, и союзные войска ждёт поражение. На поиски Иглы отправляются лучшие контрразведчики, цель которых — остановить агента любой ценой. Но неожиданно в такой глобальный сюжет Фоллетт вводит абсолютно отвлечённых от этой ситуации людей. Молодая семья живёт на закрытом острове, вдалеке от людей и войны. После роковой ошибки Иглы эти люди остаются единственным шансом на успех его операции…

Плавность и грациозность любого описания в романе мгновенно завораживает. Эта книга о борьбе человеческих страстей в условиях борьбы за жизнь и свободу.

Можно назвать Кена Фоллетта и мастером психологии. Он прекрасно понимает, что у его героя практически нет выхода, но продолжает «подкидывать» новые трудности. При этом он сопереживает Игле. Фоллетт — гуманист, требующий справедливости.

**Евгений СИНИЧЕНКО**

# Расчыні ў вясну акно!

Ці лёгка пісаць рэцэнзію на кнігі, да выхаду якіх сам спрычыніўся? Лёгка, бо знаёмы кожны радок, кожнае слова, кожны знак прыпынку. Цяжка, бо эмацыянальны кампанент перакрывае нейтральна-ацэначны. Лёгка, бо за кожным вершам стаіць аўтар са сваім настроем. Цяжка — менавіта таму ж. Калектыўны двухтомнік «Расчыні ў вясну акно» Народнага клуба паэтаў і кампазітараў «Жывіца» выйшаў у выдавецтве Анастасіі Печанко ў кастрычніку 2013 года. Па добрай традыцыі назву зборніку даў радок аднаго з удзельнікаў праекта. Гэтым разам «бонус» лёг у творчы актыў Уладзіміра Рунцэвіча, паэта адкрытай душы і шчырага сэрца.







Ці складана рэдагаваць зборнік, што ўключае творчыя набыткі амаль васьмідзесяці творцаў, якія пішуць на дзвюх мовах — часам нават у адной падборцы? Без пыхі скажу, што калі «моўныя пераключальнікі» працуюць больш нязмушана, чым тэлевізійны пульт, асноўная работа арганізавана па прынцыпе «задача-вызначэнне крытэрыяў-прыняцце рашэння», а штодзённая звычка чытаць розныя літаратурныя тэксты не менш устойлівая, чым ранішняе піццё кавы, то праз пэўны час такі працэс становіцца прадказальным і па складанасці, і па тэрмінах. Але адначасова і праблемна, бо за кожным радком стаіць рэальны чалавек, які перажывае за вершы амаль як за дзяцей! Таму хацелася б прабачыцца, што ўзгадненне рэдактуры з аўтарамі, як звычайна, практычна не праводзілася. Некалькі дзясяткаў творцаў, якія маюць заняткі апроч паэзіі, начны або ранішні час работы над зборнікам, актуалізацыя адказнасці — няхай гэта будзе традыцыйным апраўданнем. Зрэшты, і за недатыкальнасць уласных тэкстаў асабліва ніколі не змагаюся: трэба пісаць так, каб сапсаваць рэдактурай было немагчыма. І паверце, што пэўныя недахопы або «любімыя мазалі», калі адкрываецца «трэцяе вока», бачныя лепш, чым школьны клас з месца настаўніка.

Так склалася, што прынцып рэдактуры калектыўных зборнікаў складаецца пасля агульнага азнаямлення з творамі: правільна падабраны «грабеньчык» расчэсвае і бычэсвае, але не выдзірае «валасы». Гэтым разам агульны ўзровень быў такі, што фармальныя дачэпкі (як лексічныя, так і пунктуацыйныя) былі мінімізаваны, а спрэчныя моманты вырашаліся на карысць аўтара. Нават некаторыя патрабаванні ўніфікацыі былі зняты, бо ў большасці вершаваных нізак выразна праглядалася аўтарская канцэпцыя. Да таго ж калектыўны зборнік — не шарэнга, выстраеная па росце, а калектыўны здымак, на якім можна разгледзець кожнага.

Калі паэтычны ўзровень творцы вышэйшы, чым у рэдактара (такое таксама можа быць), карэктная ацэначная шкала падбіраецца зменай дыяпазону. А калі ёсць што даводзіць да фармату, то робіцца гэта ў межах аўтарскага патэнцыялу і дасведчанасці.

У анонсе да адной з кніг зборніка «Расчыні ў вясну акно» адзначыў шчыра і без перабольшання: «Пры розным паэтычным патэнцыяле, уласцівым калектыўным зборнікам, відавочны агульны рост майстэрства, што сведчыць пра тое, што «Жывіца» з'яўляецца не толькі прытулкам творчых людзей, а і сапраўднай школай паэзіі». Пэўную навучальную функцыю выконваюць і адрэдагаваныя вершы: параўнанне з першакрыніцай, выяўленне прычыны, якая прымусіла нешта змяніць, сам варыянт замены.

Правінцыяльным паэтам, лічу, куды цяжэй, чым сталічным, з-за абмежаванасці творчых кантактаў. Так, ёсць рэдкія паэтычныя старонкі ў раённых газетах, працуюць творчыя суполкі ў некаторых райцэнтрах, раз-пораз нешта выходзіць і ў сталічным друку… А комплекс зазвычай усё ж прысутнічае. Раз на месяц тыя, у каго хапіла здароўя, часу і грошай дабрацца з розных куткоў Мінскай вобласці ў абласную бібліятэку імя Пушкіна, з калгаснікаў, рабочых, настаўнікаў, бухгалтараў, інжынераў, пенсіянераў, хатніх гаспадынь афіцыйна становяцца паэтамі. З'яўляюцца, як у родную хату, сустракаюцца, як блізкія людзі. Тут можна крытыкаваць і нельга ганьбіць, бо ўсе роўныя па прыналежнасці да Музы: як дзеці адной маці. Пасяджэнні, якія ўключаюць і выступленні, і прэзентацыі, і майстар-класы, і творчыя лабараторыі, а таксама індывідуальныя кулуарныя размовы, даюць творчы зарад, дапамагаюць пазбавіцца знішчальнай для творцы самотнасці і нерэалізаванасці. І адначасова — адчуць уласны ўзровень і вызначыць шляхі ўдасканалення і кірунні развіцця.

Значная частка паэтаў «Жывіцы» стала членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі, хтосьці на сённяшні момант — на чарзе. У мінулым годзе Народны клуб «Жывіца» адзначыў дзесяцігоддзе заснавання. Шмат што зроблена, з'яўляюцца новыя задумкі, ажыццяўляюцца чарговыя праекты.

…Фармальна рэцэнзіі не атрымалася. Што не праходзіла ў рукапісах — паправіў, што прапусціў — не зменіш. Укладанне зборнікаў «Расчыні ў вясну акно» выканана па раёнах, унутры раёнаў — па алфавіце.

Многія радкі большасці аўтараў не толькі дапамагалі працаваць над двухтомнікам «Расчыні ў вясну акно», а і атрымліваць сапраўдную эстэтычную і інтэлектуальную асалоду.

**Юрась НЕРАТОК**

*Унікальны праект*

# З Палесся і Падняпроўя

З усіх адгалінаванняў творчай дзейнасці чалавека мастацтва вуснай традыцыі (фальклор) з'яўляецца найбольш вартым аховы і зберагання, паколькі адлюстроўвае «душу» народа, яго эстэтычныя і мастацкія ідэалы. Вялікую каштоўнасць у гэтай сувязі маюць сістэмныя даследаванні прафесіяналаў, якія паслядоўна і метадалагічна дакладна канстатуюць не толькі дасканаласць і мастацкую каштоўнасць аўтэнтычнага фальклору Беларусі ў мінулым, але і яго някепскую захаванасць ды вялікі сацыяльна-культурны патэнцыял для сучаснасці.

Апошні том «Гомельскае Палессе і Падняпроўе» рэгіянальнай серыі «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў», завершаны таленавітым навуковым калектывам, аснову якога склалі этнамузыколаг Тамара Варфаламеева, філолаг Алена Боганева, этнахарэолаг Мікола Козенка, этнограф Тацціяна Кухаронак, фалькларыст Ірына Мазюк, мастацтвазнаўца Вольга Лабачэўская, — выданне сапраўды эпахальнае і для нашай краіны, і для ўсёй Усходняй Еўропы, паколькі не мае аналагаў па канцэпцыі і актуальнасці. Гартаючы апошні том, прысвечаны паўднёвабеларускай традыцыі, разумееш, што задача серыі дасягнута: атрымаўся комплексны, я нават сказаў бы, эпічны паказ рэгіянальнага багацця і разнастайнасці асноўных відаў традыцыйнай мастацкай культуры ў яе сучасных аўтэнтычных формах. Па-іншаму, напэўна, і не адбылося б, калі ўлічыць, што кожны том грунтуецца на арыгінальных матэрыялах фальклорна-этнаграфічных экспедыцый, самааддана праведзеных удзельнікамі навуковага калектыву з 1993 па 2010 гады ва ўсе раёны Беларусі.

Аўтар канцэпцыі выдання Тамара Варфаламеева канстатуе: «Абапіраючыся на ідэю высокага статусу традыцыйнай культуры, яе вечнае, узыходзячае да асноў быцця, маючае высокі сэнс значэнне для нацыянальнай беларускай культуры ў цэлым, аўтарскі калектыў ужо ў працэсе палявых даследаванняў кіраваўся пэўнымі прынцыпамі збору матэрыялаў, сярод якіх асноўнымі былі: аб'ектыўнасць, навуковасць, сістэмнасць, комплекснасць, верыфікаванасць, этычнасць. Коратка названыя прынцыпы можна патлумачыць наступным чынам: ***аб'ектыўнасць*** азначае, што прадмет даследавання трэба разглядаць незалежна ад поглядаў, жаданняў і меркаванняў даследчыка, што, у прыватнасці, важна пры звяртанні да народнай рэлігійнасці; ***навуковасць*** прадугледжвае спецыяльную падрыхтоўку да яго: вызначэнне мэты і праблематыкі даследавання, распрацоўкі або вызначэння методык даследчай працы, гісторыяграфічнае вывучэнне тэрыторыі; ***сістэмнасць*** патрабуе асэнсавання фальклорнай спадчыны як сукупнасці ўзаемазвязаных разнародных элементаў, якія ўтвараюць цэласнасць і адзінства, як у мастацкім, так і ў светапоглядным планах; неабходнасць ***комплекснага*** падыходу выцякае найперш з комплекснага характару самога аб'екта і асаблівасцяў яго функцыянавання. Якім бы ні быў фальклорны матэрыял, сродкі і прыёмы яго выяўлення, яны ва ўсіх выпадках праецыруюцца ў вобласць народных прадстаўленняў, верaванняў, светаразумення, народнай карціны свету. Менавіта гэтае змястоўнае адзінства дыктуе неабходнасць інтэрпрэтацыі кожнага яе звяна ў кантэксце цэлага і ва ўзаемасувязі з іншымі звёнамі. Усе палявыя запісы павінны пацвярджацца аўдыё-, фота-, відэафіксацыямі і навуковай аналітыкай. У гэтым сэнс прынцыпу ***верыфікаванасці***, які дазваляе пазбегнуць фальсіфікацый і непрафесіяналізму ў вучэбнай, навуковай і даведачнай літаратуры па фалькларыстыцы; прынцып ***этычнасці*** можа быць накіраваны як на прадмет даследавання, так і на суб'ект інфармацыі — носьбіта традыцыі. Даследчая праца павінна будавацца на этычных прынцыпах калектывізму, універсалізму. У адносінах да інфармантаў этычнасць заключаецца ва ўліку іх жаданняў (нежаданняў) дзяліцца пэўнай інфармацыяй, фігураваць у якасці інфармантаў у публікацыях».

Да такога абгрунтаванага маніфеста дадаць нешта складана, але варта падкрэсліць дзве рэчы. Па-першае, паколькі адна з галоўных задач серыі — раскрыць традыцыйную культуру, гледзячы на яе не толькі вачыма даследчыкаў, а ў першую чаргу самі́х яе носьбітаў, — кожны, хто азнаёміцца з выданнем, мае шанц «падпітацца» жыццёвай энергіяй свайго народа. Па-другое, паколькі традыцыйная культура беларусаў прадстаўлена ў серыі ў сінхронным зрэзе, менавіта яна ўтварае сапраўдны сучасны культурны ландшафт этнасу з усёй яго непаўторнасцю і непадобнасцю на адпаведныя культурныя ўтварэнні іншых краін свету. Таму ніводзін жыхар Беларусі, які лічыць сябе адукаваным і па-мастацку развітым, не павінен абмінуць увагай гэтае выданне.

Безумоўна, амаль дваццацігадовае вывучэнне сучаснага стану традыцыйнай культуры, якое канстатуе, з аднаго боку, невычэрпнасць энергіі культурных традыцый народа і прыхільнасць карэннага вясковага беларуса да сваёй культуры, з другога — існаванне моцнага ментальнага падмурка для працягу існавання традыцыі ў новых жыццёвых умовах і новых пакаленнях беларусаў, — вартае сур'ёзнай увагі грамадства, увагі нават у форме дзяржаўнай прэміі краіны.




*Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. У 6 т. Т. 6. Гомельскае Палессе і Падняпроўе. У 2 кн. Кн. 2 / А. М. Боганева [і інш.]; ідэя і агул. рэдагаванне Т. Б. Варфаламеевай. — Мінск: Вышэйшая школа, 2013. — 1231 с. + 1 электрон.-апт. дыск (CD-Rom).*

**Вячаслаў КАЛАЦЭЙ,**
**загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ, дацэнт, кандыдат культуралогіі**

# Уладзімір Крукоўскі: «Я — self made man»



Знакаміты беларускі плакатыст, мастак і журналіст Уладзімір Крукоўскі. Асоба, якая валодае масай інфармацыі пра гісторыю беларускай шляхецкай геральдыкі. Адзін з першых творцаў, які заняў амаль пустую нішу плакатнага мастацтва на Беларусі.

## «ВАНДРОЎНІК»

Так атрымалася, што з дзяцінства я быў «вандроўнікам». Мой бацька працаваў у ваеннай будаўнічай арганізацыі, якая займалася ўзвядзеннем розных тэхнічных збудаванняў для Чырвонай Арміі, таму сям'я была вымушана ўвесь час пераязджаць з месца на месца. Нарадзіўся я ў 1937 годзе ў горадзе Асіповічы Магілёўскай вобласці. Потым пераехалі ў Бабруйск, праз год — Урэчча, Вязьма, а перад самай вайной бацьку кінулі будаваць казармы, бліндажы, траншэі пад Беласток. І сям'я, натуральна, трапіла туды. Станцыя Нурэц, якая існуе і сёння, — даволі буйны чыгуначны вузлавы пункт. Там нас вайна і заспела. А палове на пятую раніцы станцыю ўжо бамбілі немцы. Нас, малых, чалавек 5-6, пасадзілі ў вялізны пограб. Але мы вылазілі наверх: цікава ж паглядзець — грыміць усё навокал! Немцы, каб трапіць у аб'ект, пускалі асвятляльныя бомбы, нам гэта падавалася прыгожым. Літаральна праз некалькі гадзін станцыя Нурэц была ў тыле ворага, не спатрэбіліся ні рвы, ні траншэі, ні бліндажы. Так, тры гады акупацыі наша сям'я правяла на Беласточчыне. Аселі ў Залессі, што на заходнім ускрайку Белавежскай пушчы. Пасля вызвалення ў 1944 годзе апынуліся ў вёсцы Кустын Брэсцкай вобласці. У 1945-м з фронту вярнуўся бацька, паранены, але з медалямі. Сям'я пераехала ў мястэчка Ружаны, што на Брэстчыне, дзе прайшлі мае школьныя гады.




## ПЕРЫПЕТЫІ МАЛАДОСЦІ

У 1954 годзе пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Беларускі політэхнічны інстытут на архітэктурна-будаўнічы факультэт, але правучыўся там толькі тры гады, пасля працаваў у Інстытуце будаўніцтва і архітэктуры Акадэміі навук. У 1961-м пайшоў у войска, прычым «загрымеў», як кажуць, на гранічным узросце: мне было амаль 25 гадоў. І не адзін я такі быў. Справа ў тым, што ў 1961-м на службу прызывалі хлопцаў 1942 года нараджэння. А дзе іх шмат было ўзяць? Таму ў 60-я гг. падграбалі ўсіх: і са страшэннай блізарукасцю, і з касалапасцю — са мной у роце каля паловы такіх служыла. Пасля войска я вярнуўся ў Ружаны да бацькоў, неўзабаве ажаніўся. Жонка мая, Ганна Емяльянаўна, неўролагам прыехала туды па размеркаванні.




Пасля службы ў войску і многіх гадоў працы мастаком-афарміцелем пераадолела цяга да творчасці і імкненне да прафесійнага асваення асноў мастацкага майстэрства. Таму я зноў паступіў у інстытут, гэтым разам — у Віцебскі педагагічны на мастацка-графічны факультэт. Вучыўся завочна, ездзіў на сесіі, а ў 1969 годзе жонка паступіла ў ардынатуру ў Мінск, з'явіўся шанц асесці ў сталіцы. З уладкаваннем была цэлая гісторыя. На працу ж без прапіскі не бралі і наадварот, не прапісвалі без працы. Спачатку я прапісаўся да сястры ў Краснае, тады дазвалялася працаваць з абласной прапіскай, уладкаваўся на Мінскім трактарным заводзе. Гэта быў пачатак 1970-х гг., на кожным прадпрыемстве існавала так званае Бюро тэхнічнай эстэтыкі. Мастакі там малявалі плакаты, лозунгі, афармлялі дошкі гонару…

Так мы з жонкай пастунова пачалі «ўкліньвацца» ў сталічнае жыццё.

## ЧАМУ ПЛАКАТ?

Амаль 20 гадоў я аддаў прэсе: працаваў мастацкім рэдактарам часопісаў «Маладосць», «Мастацтва Беларусі», «Спадчына» (дарэчы, апошняе, гістарычнае, выданне стварaў разам з некалькімі калегамі). Паралельна ішла праца і ў Агітплакаце Саюза мастакоў БССР. Раз на тыдзень там збіралася рэдкалегія — чалавек з 10: мастакі, пісьменнікі. Кожны прапаноўваў пэўную мастацкую ідэю. У Агітплаката быў план, зацверджаны ў ЦК КПБ. Кожны тыдзень павінен быў выходзіць адзін плакат спартыўнай, святочнай, сельскагаспадарчай тэматыкі і іншай. Я друкаваўся 2-3 разы на год. Мой першы ўдалы плакат нарадзіўся імгненна, быў намаляваны за два дні. Некаторыя ідэі ўзнікаюць маланкава, а іншыя здараецца і па паўгода выношваць. Як правіла, стварэнне плаката — нудная штодзённая праца.

Абраў плакат, па-першае, таму, што гэта характарызуе спосаб мастакоўскага мыслення. Ніколі не працаваў лабавым метадам, кшталту «малюнак-подпіс», як хочаце, так і ўспрымайце. Мяне заўсёды прыцягвала магчымасць унесці ў сюжэт пэўную метафару, каб глядач не прайшоў міма, а спыніўся і падумаў. Як прыклад — плакат «Не згасне!»: старадаўняя гісторыя, да таго і свечка як сімвал памяці, ведаў і жалобы. Гэта і ёсць метафарычны вобраз, міма якога чалавек, спадзяюся, не прабяжыць. Дарэчы, і глядач, калі расшыфроўвае мастака, атрымлівае вялікае задавальненне.

## СКАЧОК У ПУСТУЮ НІШУ

На Беларусі ў канцы 1960-х — пачатку 1970-х гадоў у плакатным жанры існавала ніша, фактычна не запоўненая славутымі імёнамі, усё толькі выпадковае і скараспелае. І замест таго каб пайсці ў станковую графіку, дзе выдатна працавалі на той час ужо такія «зубры», як Арлен Кашкурэвіч, Алена Паслядовіч, Васіль Шаранговіч і многія іншыя выдатныя творцы, ці ў жывапіс, ці ў скульптуру, дзе таксама існаваў шэраг славутых беларускіх імёнаў, вядомых па ўсім СССР, я «нырнуў» амаль у пустэчу і лічу, удала! Менавіта ў плакатным жанры я змог найбольш пераканаўча, эфектыўна і плённа сябе рэалізаваць.

Акрамя плаката заўсёды цікавіўся геральдыкай. Гэта ж такі інтарэс для любога мастака! Мноства гербаў існуе без расшыфроўкі, невядома, адкуль узялася тая ці іншая выява або назва. Да таго ж, я з юнацкага ўзросту ведаў, што наш род Крукоўскіх — род гербавай шляхты! Амаль да канца 1980-х пра гэта не варта было казаць. Таму да пошуку я перайшоў, калі працаваў у гістарычным часопісе «Спадчына» і шукаў у архівах цікавыя матэрыялы на тэму «Шляхецкая геральдыка Беларусі». Выкарыстаў добрую магчымасць знайсці і свой радавод.

## СПАЧАТКУ — АРЫФМЕТЫКА!

Кожны мастак, безумоўна, павінен навучыцца маляваць, і неістотна, з дыпломам ён будзе ці без. Як малое дзіця спачатку засвойвае алфавіт, пасля — склады, словы і, нарэшце, сам тэкст і яго сэнс. Так і тут. Акрамя таго, істотнымі з'яўляюцца прыроджаныя фактары. Працуючы ў Ружанскім Доме піянераў загадчыкам дзіцячай студыі малявання, пераканаўся (хаця некаторыя лічаць, што перабольшваю): у адных дзяцей ад прыроды закладзена пачуццё кампазіцыі — кладзі перад ім аркуш, называй тэму — адразу пачынае маляваць. У іншых гэтага няма — беднае дзіця нібы баіцца аркуша, пакрысе пачынае ў куточку нешта вымалёўваць. Выяўленчаму мастацтву трэба вучыцца. Гэта не значыць, што ў тэхнікуме ці каледжы. Але ж «арыфметыку» пры гэтым мастак ведаць абавязаны. Інакш атрымаецца, што «тыпу мастак» мажа абы-што, не маючы нават нармальнага пачуцця кампазіцыі, не ўмеючы анатамічна правільна намаляваць казу, і кажа: «Вы не разумееце»! Я заўсёды дылетанта, няўмеку пазнаю па рабоце!




## ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЗРАБІЎ СЯБЕ САМ

На шчасце ці на жаль, я — тое, што амерыканцы называюць self made man — чалавек, які сам сябе зрабіў. Але гэта не значыць, што ў мяне не было з каго браць прыклад! На той час існавалі моцныя, адрозныя, высокапрафесійныя плакатныя школы. Напрыклад, Школа польскага плаката, японская, прыбалтыйская, якая, дарэчы, у параўнанні з многімі савецкімі школамі такога кшталту была вельмі моцнай. Было ў каго падглядаць асобныя прыёмы, асвойваць пэўныя кірункі і тэмы. У цяжкадаступнасці інфармацыі была і свая вартасць: тое, што адшукваеш з пэўнымі высілкамі, глыбей западае ў душу і даўжэй трымаецца.




Задумы кампазіцый прыходзяць да мяне па-рознаму. Бываюць работы на заказ ці планавыя. Плакат 1978 года «Сівая легенда» я зрабіў па заказе Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Рыхтаваўся ён пад прэм'еру оперы Дзмітрыя Смольскага паводле лібрэта Уладзіміра Караткевіча «Сівая легенда». Нягледзячы на тое, што мастацкі савет не ўхваліў гэты плакат, ён пасля прайшоў па ўсіх магчымых выстаўках, рэпрадукцыі з'яўляліся ў шматлікіх альбомах і часопісах. Некалькі год таму нават выйшла кніга У. Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» з рэпрадукцыяй майго твора. Адзінай любімай работы ў мяне няма. Існуе плакат 1972 года з якім я «прыйшоў» у гісторыю беларускага плаката. Выдавецтва «Беларусь» пасля надрукавала яго для продажу важкім накладам.

## СІТА ЧАСУ

Казаць, што я ледзь не пачынальнік беларускага плаката, — перабольшванне! Плакат мае больш як 100-гадовую гісторыю, ён існаваў яшчэ да Ф. Рушчыца. У 1960-х існаваў адзіны прафіляваны плакатыст — Трафім Ігнаценка, які вучыўся ў Вільнюсе на аддзяленні плаката. Усе астатнія творцы — з сумежных прафесій: графікі, жывапісцы, карыкатурысты і інш.

Што да сучаснага плаката… ёсць прафесіяналы, людзі з высокім мастацкім узроўнем. Але выдзяляць пэўныя прозвішчы не маю права, таму што ў плакаце, як і ў іншых відах мастацтва (не абавязкова выяўленчага), адзнакі ставіць Яго Вялікасць Час. Сіта часу працуе бесперапынна, трэба баяцца сённяшніх ацэнак кшталту «геній».

Па гісторыі сучаснага плаката ў цэлым цяпер няма ніводнага глыбокага выдання: ні альбома, ні буклета… Ніхто гэтым не займаўся. Гэта ж каласальная фізічная праца: абысці ўсе музеі сталіцы, абласцей, прагледзець запаснікі кожнага мастака, узяць дазвол… няма ахвочых. Гэта таксама фактычна незапоўненая ніша. Толькі Алена Атраховіч напісала кандыдацкую дысертацыю на гэтую тэму, але без візуальнага выніку — выдання ці альбома.

**Таццяна ШЫМУК**



Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Слова краязнаўцы



**Вячка Красулін, аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, распавядае пра рэканструкцыю абраду «Жаніцьба Цярэшкі», што была здзейснена студэнтамі кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ падчас рэалізацыі дыпломнага праекта:**

— Усім, пэўна, добра вядомая абыходная традыцыя на Каляды. Але яна існавала не на ўсёй тэрыторыі сучаснай Беларусі. У многіх раёнах Віцебскай вобласці дагэтуль яшчэ бытуе абрад, дзе «Цярэшку жэняць». Сэнс гэтай калядняй містэрыі — здзейсніць жартоўнае вяселле, «пераженіць» усіх жыхароў вёскі. Асаблівая ўвага надавалася нежанатай моладзі. Спецыяльна для абраду выбіралі «матульку», самую харызматычную жанчыну ў вёсцы. Ну, а спеўны рэпертуар абраду надзвычай разнастайны. Так званыя «цярэшкі», жартоўныя прыпеўкі, у асноўным носяць апісальны характар: «Цярэшку жаніць, жаніць, / галоўка баліць, баліць. / Як жа дзядульку лавіць: / — А здайся дзядулька, здайся, / На другіх не заглядайся. / Другія з ума звядуць, / Шапачку й боцікі здзяруць».

Своеасаблівасцю і адметнасцю гэты абрад Падзвіння і зацікавіў маладых спецыялістаў з кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Пра стварэнне праграмы «Жаніцьба Цярэшкі па-глыбоцку» гурта «Этна-суполка» распавяла яго мастацкі кіраўнік, старшы выкладчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ Таццяна Пладунова: «Абрадавая гульня «Жаніцьба Цярэшкі» захавалася на Паазер'і. І мне давялося пабачыць яе ў жывым бытаванні ў вёсцы Бабынічы Полацкага раёна падчас фальклорнай экспедыцыі аддзела фальклору Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі разам з маімі сябрамі, этнапедагогамі Аляксеем Галічам і Эвелінай Шчадрынай. Тады, у 2002 годзе, вясковая моладзь наладзіла гэту гульню пад наглядам і з непасрэдным удзелам носьбітаў. Затым матэрыял па «Цярэшку» і калядных ігрышчах быў запісаны ў вёсцы Мураўшчына».



А вось экспедыцыя студэнтаў у вёскі Івесь і Шо Глыбоцкага раёна ўзмацніла атрыманыя уражанні, калі жанчыны-спявачкі прадэманстравалі свае песні-цярэшкі і пракаменціравалі драматычнае дзеянне. Супастаўленне запісаных узораў Полаччыны і Глыбоччыны выявіла іх роднаснасць і амаль поўнае супадзенне як песенных напеваў, так і па апісанні драматургічнай і харэаграфічнай партытуры. У вёсцы Івесь Глыбоцкага раёна студэнтам пашанцавала праінтэрв'юіраваць Васіля Радзюша, цымбаліста-віртуоза, які з задавальненнем падзяліўся навыкамі ігры на дыятанічных цымбалах і прадэманстраваў мелодыі да калядняй містэрыі «Жаніцьба Цярэшкі па-глыбоцку». Была зафіксаваная самабытная версія шырокавядомага танца «Лявоніха» ў міноры. Мала хто ведае, але гэты танец некалі быў неадрыўным ад «Жаніцьбы». Выкананне «Цярэшкі» Васіля Піліпавіча стала галоўным музычным стрыжнем пры стварэнні праграмы: гэта чаргаванне «цярэшак» і «Лявоніх» пры злучэнні і перакручванні пар «бабулек» і «дзядулек». «Палявыя» занятки ў Васіля Піліпавіча падчас экспедыцыі на першым курсе не прайшлі дарэмна, і Дар'я Мордань засвоіла ў носьбіта і строй яго цымбал, і манеру ігры.

Дзякуючы ўдзельніцы гурта «Госьціца» Святлане Яфімавай для правядзення дыпломнага праекта былі знойдзены дыятанічныя цымбалы, узрост якіх — больш як сто год. Для кансультацыі па наладцы Дар'я Мордань звярталася да мультыінструменталіста, лідара легендарнага гурта «Ліцьвіны» Уладзя Бярберава. Свае версіі «Цярэшкі» ад цымбальных урокаў нарадзіліся і ў астатніх музыкаў: Веранікі Анцілеўскай (скрыпка), Мікіты Халькова і Міколы Дашыневіча (дуда), а Юлія Бялько вельмі ўдала спявала «цярэшкі» ў вобразе «матулькі».

## Музейны ўнікат

# Радзівілаўскі «праванс»

Музей-запаведнік «Нясвіж» запрашае на выстаўку ўнікальнага музейнага здабытку — Радзівілаўскага спальнага гарнітура. Гэты камплект у стылі Людовіка XVI быў выраблены для князя Канстанціна Радзівіла ў XIX стагоддзі. Пасля першай дэманстрацыі рарытэтаў у выставачнай зале 15 прадметаў княжацкай мэблі размесцяцца ў інтэр'ерах Нясвіжскага Палаца.



Фота Ігара Лагіновіча

Камод-семаньер.

А пакуль наведвальнікі могуць дэталёва знаёміцца з кожным прадметам арыгінальнага гарнітура. З 2007 года ў музеі праводзілася вялікая праца па пошуку і набыцці экспанатаў для ўзнаўлення апартаментаў княгіні ў Палацавым ансамблі. У выніку на нью-ёркскім аўкцыёне *Sotheby's* быў знойдзены гэты спальны гарнітур. Непаўторны ў сваёй аўтэнтычнасці, ён з годнасцю папоўніць музейную калекцыю.

Доўгі час мэблевы камплект знаходзіўся на Віле дэ Дзюн у Канах, якая належала князю Канстанціну Радзівілу. Мэбля, выкананая ў стылі «праванс» у апошняй чвэрці XIX стагоддзя, дэкарыравана адмысловымі разьбой і роспісам. Асобныя рэчы вянчае фамільны герб Радзівілаў. Вялікія памеры гарнітура тлумачацца тым, што ён быў разлічаны на выкарыстанне ў двух пакоях. Хутчэй за ўсё, мэблю можна падзяліць на два экспазіцыйныя комплексы — спальня і малая сталовая зала.



Фота Ігара Лагіновіча

Тумбачка-столік «Гірыдон».

Князь Канстанцін Радзівіл — прадстаўнік галіны роду на Шыдлоўцы і Паланечцы, з'яўляецца нашчадкам першага нясвіжскага ардыната Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі ў сёмым калене. Ажаніўся з Луізай Бланк, дачкой Франсуа Бланка — заснавальніка казіно ў Манака і пазней знакамітага Монтэ-Карла. Як сведчаць сучаснікі, нягледзячы на сваю папулярнасць сярод парыжскага грамадства, Канстанцін Радзівіл не губляў сувязей з радзімай. Так, у 1914 годзе сустракаўся ў Парыжы з Антоніем Альбрэхтам Радзівілам і яго жонкай Марыяй дэ Кастэлян. У тым жа годзе наведаў родных у Нясвіжы і Паланечцы.

**Анастасія ПАДДУБСКАЯ**

# Відовішча, магія, цуд

Кожны год у Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі да Каляд ладзяцца новыя выстаўкі. Сёлетняя прысвечана гісторыі беларускіх батлеечных тэатраў і шопак.

На выстаўцы «Цуд у Віфлеемскую ноч» прадстаўлены батлейкі і лялькі з фондаў музея і з асабістай калекцыі архітэктара-рэстаўратара Галіны Жаровінай (г. Мінск). Частку экспанатаў у свой час падараваў установе пробашч гродзенскага касцёла Маці Божай Анёльскай ксёндз Юзаф Макарчык.

Наведвальнікі экспазіцыі могуць убачыць пяць батлеек, выкананых у розных тэхніках, характэрных для мінулага і пазамінулага стагоддзяў. Батлейка, народны лялечны тэатр, з'явілася ў Еўропе ў XV ст., атрымала распаўсюджванне на тэрыторыі Беларусі і была вельмі папулярнай у XVI — пачатку XX стст. Гісторыя ўзнікнення тэатра звязана з каляднымі святамі. Першапачаткова ўсе яго сюжэты прысвячаліся біблейскім тэмам, а героямі былі Маці Божая, Ісус Хрыстос, святыя. Пазней з'явіліся інтэрмедыі — камедыйна-бытавыя эпізоды, якія чаргаваліся з кананічнымі сцэнамі.



Шмат намаганняў для захавання і развіцця батлеечнай традыцыі ў Беларусі прыкладае Галіна Жаровіна. У 1989 г. пры мастацкім прафесійна-тэхнічным вучылішчы рэстаўратараў № 234 у мястэчку Мір яна стварыла гуртoк «Мірская батлейка», члены якога вырашылі не толькі адрадзіць традыцыйнае мастацтва батлейкі, але і надаць яму сучаснае гучанне. Вялікую цікавасць выклікае ў наведвальнікаў выстаўкі выкананая гуртоўцамі рэканструкцыя ельнінскага вяртэпа (другая назва батлейкі) канца XVIII — XIX стст. З цягам часу гурток «Мірская батлейка» пераўтварыўся ў сапраўдны музей-тэатр-студыю, якая праіснавала да 2012 года.

На выстаўцы экспануюцца дзве батлейкі з фонду музея: магілёўская другой паловы XIX ст. (рэканструкцыя XX ст.) і сучасная саламяная з вёскі Урэчча Вілейскага раёна, створаная Пятром Гатоўкай у 1991 г. Сярод экспанатаў — хатняя батлейка, якую вырабіў з паштовай скрыні ў 2000 г. жыхар Мінска Фёдар Сарока, хатняя батлейка Галіны Жаровінай, змайстраваная ёю ў 2000 г. для ўнукаў.

Паводле каталіцкай традыцыі, напярэдадні калядных свят у касцёлах у гонар Нараджэння Хрыстова усталёўваюць макет стаенкі з фігуркамі Святой сям'і, пастухоў і трох каралёў, якія прыйшлі пакланіцца Хрысту. У Беларусі такія стаенкі называюць шопкамі. Традыцыйна існуе з 1223 г., калі Святы Францыск Асізскі (г. Асізі, Італія) збудаваў у Грэчыа (Італія) першую стаенку, дзе змясціў алтар, у якім адлюстраваў вобразы Дзіцяткі Ісуса Хрыста і ўсіх асоб, што былі, згодна з евангельскімі апісаннямі, сведкамі нараджэння Збавіцеля. Святы Францыск хацеў такім чынам ажывіць урачыстасць Божага Нараджэння. Гэты звычай вельмі хутка распаўсюдзіўся і захаваўся да сённяшняга дня. У экспазіцыі прадстаўлены фігуркі з беларускіх шопак — Слон і Вярблюд (1920 — 1930-я гг.).

Да батлейкі (тэатр рухомы) і да шопкі (тэатр статычны) у аднолькавай ступені можна аднесці вядомае выказванне Георгія Барышова: «...у самім гучанні слова ёсць нешта магічнае... Яна і штосьці сучаснае, і штосьці гэтак далёкае, што яго не ўспрымаеш інакш, як толькі ў старажытным німбе, у рамантычным флёры... Гэта цэлы пласт культуры».

**Галіна ХАМКО, фота аўтара**

# Ад прадзедаў...

Народны гісторыка-краязнаўчы музей «Невычэрпная крыніца гісторыі» ўжо чвэрць стагоддзя дзейнічае ў 25-й мінскай гімназіі. Яго калектыў на чале з Алінай Пахвалёнай, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, працуе па трох кірунках: беларускі побыт, летапіс школы і ваенная тэматыка. Шмат увагі надаецца краязнаўчай дзейнасці навучэнцаў.



Аліна Пахвалёная дэманструе бразготкі, якія належалі яе бацьку.



Экскурсію праводзіць Аляксандр Юшкевіч.

На базе музея існуе краязнаўча-этнаграфічная навуковая суполка «Спадчына». Менавіта праз заняткі краязнаўствам, гісторыяй і этнаграфіяй расце цікавасць вучняў да роднага краю і яго лёсу. Летась шэсць юных краязнаўцаў за сваю навуковую дзейнасць былі ўганараваны пуцёўкамі ў Нацыянальны аздараўленчы лагер «Зубронак». Напрыклад, дырэктар школьнага музея Аляксандра Безмен пісала навуковую работу «Таямніцы малой радзімы» і стала лаўрэатам мінскага гарадскога конкурсу. А работа Ганны Чарняўскай, Анастасіі Лявіцкай і Лізаветы Іонавай пра паданні Браслаўскага краю заняла першае месца. Штогод гімназісты актыўна ўдзельнічаюць у рэспубліканскай акцыі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся», дабіваюцца добрых вынікаў. Напрыклад, Ганна Трафімава атрымала дыплом І ступені ў мінскім гарадскім і рэспубліканскім конкурсах за даследчую работу «Мая незабыўная, мая 25-я».

— Наша ўстанова мае вельмі цікавую гісторыю, — распавяла Аліна Пахвалёная. — Узорная чыгуначная беларускамоўная школа імя Аляксандра Чарвякова існавала яшчэ да вайны і знаходзілася на месцы сённяшняга Галоўпаштамта, але ў 1941 годзе згарэла. Пасляваенная 25-я размясцілася на вуліцы Сядова, 3. Калі ў 1958-м паўстала пытанне, якое імя надаць гэтай школе, пачалася вялікая работа па пошуку людзей, якія вучыліся ў знакамітай установе. Дарэчы, тут выкладаў гісторыю і геаграфію Янка Маўр. Тут вучылася мужная партызанка Рыма Шаршнёва. За адной партай з ёю сядзеў Артур Вольскі. У 1965 годзе 25-й было нададзена імя Рымы Шаршнёвай.

Галоўная задача музея, дзе размешчана больш як тысяча экспанатаў, — правядзенне аглядавых, тэматычных экскурсій і іншых актуальных і займальных мерапрыемстваў. Музей у сучаснай школе ўяўляе сабой інфармацыйна-педагагічнае асяроддзе з новымі формамі ў арганізацыі пазнавальнай дзейнасці навучэнцаў. Многім падабаецца тэматычная «Экскурсія адной рэчы». Зусім нядаўна тут даведаліся пра асаблівасць японскай музейнай педагогікі, калі цэлая экскурсія прысвячаецца аднаму экспанату.

— Наведвальнікі музея знаёмяцца з гісторыяй з'яўлення і выкарыстання экспаната не толькі праз паведамленне экскурсавода, але і праз прагляд мультымедыйнай прэзентацыі, што робіць экскурсію больш інфарматыўнай і займальнай, — распавяла Аліна Казіміраўна. — Напрыклад, неглюбскі ручнік, які мае вельмі цікавую гісторыю. Некалькі гадоў таму ў Заводскім раёне горада Мінска праводзіўся неглюбскі фэст, на якім мы дэманстравалі незвычайны прыгажосці ручнік (больш як чатыры метры даўжынёю) з вёскі Неглюбка Веткаўскага раёна. Раптам да мяне падышла старэнькая бабулька: «А божачкі! Як у вас апынуўся мой ручнік?» Аказваецца, у мяне вучылася яе ўнучка — Наталля Петрашэнка, якая пісала навуковую работу «Сувязь твораў Уладзіміра Караткевіча з краязнаўствам». Аднойчы дзяўчынка прынесла ў музей гэты ўнікальны выраб. Ведаючы пра яго каштоўнасць, я адмаўлялася ўзяць ручнік. Але Наталля настойвала: «Бацькі сказалі, каб я падарыла яго музею». Бабуля распавяла, што яе сын у савецкія часы трапіў на службу ў Афганістан. Яна ўзяла гэты ручнік, пайшла ў царкву і павесіла яго на абраз Мікалая Цудатворца. Кожны дзень шчыра малілася і прасіла Бога, каб сын вярнуўся дамоў. Прайшло два гады, хлопец прыйшоў дахаты жывы-здаровы. А ручнік маці падарыла яму на вяселле. З таго часу мінула 17 гадоў.

Музей для Аліны Пахвалёнай — гэта і хобі, і праца, і сувязь са сваім родам, бо амаль 500 рэчаў узята з хат яе продкаў, якія жылі ў вёсачцы Галаўцы Нясвіжскага раёна. У першую фальклорна-этнаграфічную экспедыцыю ў 1987 годзе выправілася з вучнямі менавіта туды. На наступны год паехалі ўжо ў Барысаўскі раён, потым наведалі Мядзельшчыну. Хоць больш экспедыцый не было, але музей пастаянна папаўняецца экспанатамі. Прыносяць і дзеці, і настаўнікі. Асабліва пасля летніх канікулаў, калі многія адпачываюць у вёсцы, дзе яшчэ можна ўбачыць аўтэнтычныя рэчы.

У школьным музеі працуюць 28 экскурсаводаў, кожны з якіх мае сваю «тэму». Напрыклад, Марыя Кабак распавядае слухачам пра гісторыю калыскі. Падабаецца быць экскурсаводам Аляксандру Юшкевічу, якому цікавае наша мінулае і культура. Дзякуючы музею Ганна Комар пазнаёмілася з жыццём продкаў, даведалася пра гісторыю куфраў і ўпершыню ў жыцці пабачыла калаўрот. Вікторыя Ніканович прынесла сюды даваенны патэфон, які падараваў ёй прадзед.

Але ўрокі — перш за ўсё. Тут вельмі любяць нестандартныя заняткі. Прыдумалі рэкламныя паўзы. Вядома ж, у першую чаргу «прасоўваюць» музейныя экспанаты. Напрыклад, гліняны посуд: «Калі ласка, гладышы, выбірайце для душы, малако ў іх налівайце, ганчароў успамінайце. А пузаценькі гаршчок грэе ў печы круглы бок, кашу смачную гатуе, усіх дзетак пачастуе».

— Выкарыстоўваем у працы музея і інтэрактыўныя формы, — прадаўжае Аліна Пахвалёная. — Калі ў большасці выпадкаў роля слухачоў пасіўная, то ў час правядзення экскурсіі «Цуды музея» дзеці спрабуюць сябе ў ролі гаспадыні — прасуюць старадаўнімі прасамі, якія награваюцца вуголлем, ставяць на патэфон вінілавыя пласцінкі.

Цікавы момант у гімназіі — адраджэнне некаторых традыцыйных беларускіх рамёстваў. Прынамсі, сумесна з майстрам па валянні Веранікай Фаміной і настаўніцай працоўнага навучання Аленай Зуеўскай, якая кіруе гуртком «Умелыя ручкі», правялі майстар-клас па шапавальстве. Цесна супрацоўнічаюць з гарадскім і рэспубліканскім турыстычна-краязнаўчымі цэнтрамі. Летась у «БелЭКСПА» праходзіла выстаўка «Грамадзянска-патрыятычнае выхаванне: умовы і перспектывы», падчас якой Аня Трафімава, Насця Размысловіч і Ліза Кашэўская, седзячы за калаўротам, пралі, а навучыла іх гэтаму бабуля Аляксандра Юшкевіча — Соф'я Пракопаўна.

Падчас Першага нацыянальнага форуму «Музеі Беларусі», які праходзіў у Гродне, акрамя дыплома за ўдзел навучэнцы 25-й гімназіі атрымалі дыплом лаўрэата конкурсу «Музеі Беларусі — трэцяму тысячагоддзю» ў намінацыі «Лепшы музей па арганізацыі культурна-адукацыйнай дзейнасці ў справе патрыятычнага выхавання моладзі» за фарміраванне нацыянальнай свядомасці вучняў праз вывучэнне культурнай спадчыны беларусаў сродкамі музейнай педагогікі.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

*__Святочны каляндар__*

# Царскія провады

На Міншчыне добра захаваліся калядныя абрады, у правядзенні якіх вылучаюцца тры кульмінацыйныя кропкі: пярэдадзень Каляд (Першая куцця), пярэдадзень Новага года (Шчодры вечар), Вадохрышча.

Сёння калядныя абрады з'яўляюцца жывой праявай святочнага народнага календара. Паўсюль святкуецца Вадохрышча. Абрад провадаў Каляд ахоплівае ўвесь цэнтр Беларусі. Праўда, для паўднёва-заходніх раёнаў Міншчыны характэрны звычай святкавання пасля Вадохрышча «Паабед-Каляды». І толькі Бярэзінскаму раёну ўласцівы рытуал провадаў пад назвай «Цягнуць Каляду на дуба».

У Лагойскім раёне 7 студзеня прайшло тэатралізаванае прадстаўленне-віншаванне з абыходамі двароў «Калядам усе рады» на аснове мясцовых традыцый. Праграму з каляднай варажбой, заснаваную на мясцовым матэрыяле, прадэманстравалі ў Смалявіцкім раёне. Калядны абрад «Цары», занесены ў спіс Сусветнай нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА і ў Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі, абавязкова пакажуць 13 студзеня ўсім жадаючым у вёсцы Семежава Капыльскага раёна. На Мядзельшчыне 18 студзеня чакаецца свята «Каляды» ў выкананні народнай фальклорна-этнаграфічнай групы «Вузлянка».

**Раіса МАРЧУК**

*__Да ведама__*

# Ёлкі. Шакаладныя!

«Снежная казка», а менавіта так называецца выстаўка навагодніх ёлак, завітала ў Брэсцкі абласны краязнаўчы музей. Тут можна ўбачыць каля 70 цудоўных рукатворных прыгажунь. Іх аўтары, ствараючы галоўны навагодні сімвал, праявілі не толькі фантазію, але і вынаходлівасць. Перад наведвальнікамі паўстаюць ёлкі з карунак і пацерак, шышак і пер'я, цукерак і мандарынавага лупіння, вязаныя кручком, плецёныя, керамічныя, у выглядзе выцінанкі. Кожны экспанат — унікальны.

На прапанову музея ўзяць удзел у конкурсе на лепшыя навагоднія ёлку і маску адгукнуліся жыхары абласнога цэнтра і Брэсцкага раёна ва ўзросце ад шасці гадоў. Ёсць індывідуальныя і калектыўныя работы, якія стварылі выхаванцы цэнтра дадатковага навучання, агульнаадукацыйных і нядзельных школ, тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Выстаўка праходзіць у трэці раз. Дарэчы, кольказць яе ўдзельнікаў з кожным годам павялічваецца.

Пераможцаў з дапамогай наведвальнікаў экспазіцыі вызначыла кампетэнтнае журы. Першае месца прысуджана ёлцы з глазураваных абаранкаў у выкананні жыхаркі Брэста Інесы Фінслер. Другое — шакаладнаму твору, на які пайшло 5,5 кілаграма салодкага ласунку. Трэцяе месца атрымала калектыўная работа студэнтаў — прыгажуня з макароны ў выглядзе ракавінак.

Выстаўка прадоўжыцца да 20 студзеня. Увесь гэты час будзе ісці галасаванне, па выніках якога вызначыцца ўладальнік прыза глядацкіх сімпатый.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Тэмай паяднаныя

Абразы, кнігі і медное ліццё з фондаў музея дзяржаўнай гісторыка-культурнай установы «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль», а таксама прыватных калекцый сталі экспанатамі на выстаўцы «Святыя аблічча Ісуса Хрыста і Багамаці», прысвечанай калядным святам.

Калекцыя іканапісу і культавых прадметаў пачала фарміравацца адразу пасля адкрыцця музея. Першыя экспанаты — прадметы з Хатняй царквы князёў Паскевічаў. Наступныя паступленні сведчаць пра разнастайнасць іканапісных традыцый, якія існавалі на тэрыторыі Гомельскай вобласці.

Праваслаўны абраз, створаны прафесійнымі іканапісцамі, адрозніваe высокі ўзровень майстэрства. За вонкавай прастатой графічна-іканапіснага, інсітнага стылю адчуваецца глыбінная народная філасофія. Стараверскія абразы, створаныя на Гомельшчыне, узыходзяць да традыцый, якія атрымалі развіццё ў творчасці таленавітых мясцовых майстроў XVII — пачатку XX ст. Усе іконы аб'яднаны тэмай Ісуса Хрыста і Богамаці, якая на працягу доўгіх стагоддзяў з'яўляецца цэнтральнай у хрысціянскім мастацтве.

Наведвальнікі экспазіцыі могуць упершыню пазнаёміцца з працай музейных супрацоўнікаў па рэстаўрацыі і захаванні культавых прадметаў. Падчас выстаўкі ў Музеі Слаўацкага нацыянальнага паўстання ў г. Банска-Быстрыца было адсканіравана 55 абразоў. Вынікі алічбоўкі ўпершыню дэманструюцца наведвальнікам.

**Бажэна СТРОК**

# Алегорыі Шчамялёва

**Яго называюць патрыярхам беларускага жывапісу. Ён лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Адна са сталічных галерэй носіць яго імя. Народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў сустрэў у лютым 2013 года 90-ы дзень нараджэння. Юбілейны год творцы пачаўся з параднай выстаўкі ў Нацыянальным мастацкім музеі, прадоўжыўся вернісажам у Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва і напрыканцы снежня завяршыўся экспазіцыяй «XX, XXI...» у Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага. Апошняя прадстаўляе паўсотні работ Л. Шчамялёва, сярод якіх — партрэты, напісаныя ў 1960-я гады, якія раней не выстаўляліся.**

XX стагоддзе перайшло ў XXI, эпохі і дзесяцігоддзі ляцяць з касмічнай хуткасцю, як коні ў адной з ранніх карцін Л. Шчамялёва «Зіма» (1952), якая стала своеасаблівым эпіграфам да выстаўкі. Кантрасны гэтаму імкліваму руху спакой галоўнай гераіні карціны — дзяўчыны, якая глядзіць шырока расплюшчанымі вачыма на віхуры жыцця вакол сябе. Вольна або мімаволі атрымалася алегорыя: душа сапраўднага мастака бывае захоплена энергіяй імгненнага патоку падзей і ўражанняў, але адначасова — у вечнасці…

Карціна «Зіма», напісаная яшчэ да заканчэння Л. Шчамялёвым Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (клас прафесара Віталя Цвіркі) ніколі не дэманстравалася раней, як і шэраг іншых карцін. Адкрыццём для гледача сталі таксама партрэты ранняга перыяду творчасці аўтара. Асаблівa дарагія мастаку, яны ніколі да гэтай пары не пакідалі сцен яго майстэрні.

Некалькі буйных пазнейшых палотнаў, якія таксама нячаста выходзілі «на публіку», прадстаўляюць Леаніда Шчамялёва таго часу, калі яго каларыт быў вельмі насычаным, нават цёмным, а тэмай мастацкіх фантазій была, напрыклад, ноч і яе фантасмагарычны свет. Менавіта ў той напружаны і рамантычны перыяд мастакоўскае «я» было зафіксавана Андрэем Бембелем у выдатным скульптурным партрэце (1976), які цяпер можна ўбачыць у Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва (дарэчы, у 2013-м галерэя адзначыла сваё 10-годдзе).

Жывы класік Леанід Шчамялёў як творца цяпер больш ураўнаважаны, празрысты і светлы. Гэта пацвярджаюць і новыя карціны, таксама прадстаўленыя на выстаўцы. Магчымасць параўнаць розныя перыяды і станы мастака — сапраўдная эстэтычная вандроўка, у якую запрашаюць арганізатары экспазіцыі.

Выстаўка «XX , XXI...» будзе доўжыцца да 19 студзеня.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**



*«Партрэт І. Дарашкевіч», 2012. Палатно, алей.*

# Захоўваць… сябе!



*«Кастынг», 2012.*

Што можа зрабіць лічбавае асяроддзе з чалавечай душой, дэманструе ў сваіх работах гродзенскі мастак Сяргей Грыневіч на выстаўцы «Кастынг», якая праходзіць да 18 студзеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі.

Выстаўка «Кастынг» з'яўляецца лагічным працягам двух папярэдніх праектаў — «Жаночы кантэкст» і «Клоны», — якія адбыліся некалькі гадоў таму, спачатку ў Беларусі, потым — у Літве і ва Украіне. Некаторыя творы з цягам часу страцілі сваю актуальнасць, новыя дапоўнілі экспазіцыю. Такім чынам, выстаўка паўстае перад гледачом у абноўленым выглядзе, прынамсі, мінскаму гледачу ўсе творы прадстаўляюцца ўпершыню.

Галоўная ідэя — пошук шляхоў самаідэнтыфікацыі асобы ў навакольным свеце, спроба знайсці апірышча для захавання ўласнай адметнасці і ўнікальнасці. Гэта аўтарскае разважанне пра тое, што ў сучасным грамадстве чалавеку значна лягчэй стаць падобным да іншых і адпавядаць уніфікаваным патрабаванням соцыуму, чым захаваць сваю індывідуальнасць. Вы не ўбачыце тут гатовых рэцэптаў і адказаў на пытанні, аўтар толькі спрабуе заакцэнтаваць некаторыя хвалюючыя праблемы і паразважаць пра іх разам з гледачом.

Выстаўка складаецца з дзвюх узаемазвязаных частак: «Кастынг», па назве аднаго з твораў, другая — самастойны праект «Стань дзяўчынай Бонда», які ў іранічнай форме нібы дапамагае спраўдзіцца ўнікальным дзявочым марам. Экспазіцыя створана з жывапісных работ, выкананых як у традыцыйнай манеры (палатно, акрыл), так і ў памежных з жывапісам аўтарскіх тэхніках, а таксама з некалькіх прасторавых аб'ектаў.

**Таццяна ШЫМУК**

# Кветкі для Папялушкі

**«На выстаўкі сёння ходзіць усё менш людзей», — сумуе беларуская мастачка Вольга Гацко. Але «калі Магамед не ідзе да гары, то гара ідзе да Магамеда». Экспазіцыю сваіх работ Вольга адкрыла ў Інстытуце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Цяпер студэнты сядзяць на парах сярод кветак і казачных пейзажаў, а выкладчыкі з захапленнем адзначаюць: «У такой аўдыторыі і заняткі праводзіць прыемна».**

Талент мастачкі выявіўся менавіта ў пейзажах і нацюрмортах. Здавалася б, чым могуць заінтрыгаваць звычайныя кветкі? В. Гацко здолела персаніфікаваць расліны: рознакаляровыя вочы кветак пазіраюць на цябе то сарамліва, то гарэзліва. А якія ў гэтых «кабет» сукенкі!.. Мастачка адзначае: «У карцінах вельмі насычаныя колеры. Такім яскравым я бачу свет. Яшчэ калі вучылася, мой жывапіс заўсёды пазнаваў па колеры выкладчык Павел Масленікаў».

Сапраўды, моцны колер у выкарыстанні Вольгі Гацко ў спалучэнні з такімі ж моцнымі, выразнымі мазкамі не толькі ажыўляе кветкі, але і ператварае пейзажы ў казачна-літаратурны свет. Сумны восеньскі лес на палатне — гэта ўжо не наша звычайная рэальнасць, бо падаецца, што вось там, за дрэвамі, стаіць хата Бабы-Ягі. На іншай карціне бурліць, шуміць, пераліваецца ўсімі адценнямі сіняе мора. Карціны мастачкі абуджаюць фантазію. Дрэвы, сцяжынкі, рачулкі яднаюцца, канкрэтыка знікае — толькі ўражанні застаюцца! Дарэчы, карціны не маюць назваў — гэта яшчэ адзін крок ад рэчаіснасці. І вось што цікава: пейзаж Вольгі Гацко — перадусім восеньскі. Якая пара года можа быць больш таямнічай і зменлівай?

Творца скончыла Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Чым толькі яна не займалася: размалёўвала дзіцячыя лагеры, афармляла вітрыны крам і кавярняў... Сёння працуе ў Інстытуце журналістыкі БДУ: «Трэба ж на нешта купляць палатно і фарбы! Раніцай адпрацую, а потым — вольны час для творчасці».

Працуе ўвесь час. А вынікі гэтай працы людзі не заўсёды і заўважаюць. Але застаецца Папялушка адна і… пачынае ствараць цуды.

**Паліна ПЛАТАВА**



ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2535.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 09.01.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 22.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
9 770024 468001
14002